НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 10 (751) 14 сакавіка 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдн



## Буранаўскія бабулі, а не намазаныя дзявулі

Ад Расіі на «Еўрабачанне» едзе гурт «Брангуртысь песнаёс», які спявае па-ўдмурцку. Гурт узнік пры вясковым Доме культуры. Старонка 11.

# Вандалы: на Прыпяці высякаюць векавыя дубы

Людзі ледзь не плачуць: **начальства загадала**. **Старонка 9.**



PTUSHKI.ORG

Тэндэнцыі

## Загад чыноўнікам: не дапускаць беларусіфікацыі

У «Нашу Ніву» трапіў цыркуляр, спушчаны з **Адміністрацыі прэзідэнта** па вертыкалі.

Дакумент датаваны 2 сакавіка. Ён накіроўваўся старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціну Сумару. У дакладной запісцы адзначаецца:

«У выкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы, дадзеных 24 лютага 2012 у ходзе нарады па выніках правядзення фіналу Нацыянальнага музычнага праекта «Еўрафэст», першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. М. Радзькоў звярнуўся да Вас з просьбай у 2012 годзе:

забяспечыць аптымізацыю расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцяў, пастаноўку спектакляў, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзенне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў;

прыняць канкрэтныя меры па недапушчэнні правядзення кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый палітыкі прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэння выкарыстання расейскай мовы ў іх дзейнасці».

Дакумент ідзе за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення справамі аблвыканкама, загадчыка аддзела па арганізацыйна-метадычнай працы і справаводству Вольгі Клімаховіч.

**Працяг на старонцы 3.**

VIP

### Пефціеў будуе вялізны дом пад Мінскам

«Квадратных метраў тысячы дзве». **Старонка 2.**



Гутарка

### «Пасля Лукашэнкі новы аўтарытарны рэжым»

Лічыць палітолаг Андрэй Суздальцаў. **Старонка 4.**



Грамадства

### Чаму штогод абвальваюцца балы на ЦТ?

На праверку сшыткаў адна гадзіна ў тыдзень. **Старонка 6.**



Літаратура

### Свяціцкі кот

Хто гэтыя прыхадні з вудамі, што абкрадаюць маё азяро? Апавяданне Уладзіміра Лобача. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Пефціеў будуе сабе пад Мінскам велізарны дом

**Стыль — тыповы** для сучаснай балтыйскай архітэктуры.

Адзін з самых заможных людзей Беларусі — бізнэсовец Уладзімір Пефціеў — на ўскрайку вёскі Раўбічы пад Мінскам будуе дом у стылі хай-тэк. Пакуль надвор'е не спрыяе давядзенню да ладу вонкавай «каробкі», гмах аздабляюць усярэдзіне.

Прыёмкай займаецца архітэктар, выпісаная з Латвіі, але сяды-тады зазірае на пляцоўку і сам гаспадар. Уезд на ўчастак — праз шлагбаум, дом Пефціева адразу за ім.

Далей па вуліцы некалькі катэджаў, якія выглядаюць зусім сціпла ў цяні канкурэнта. Дзясятак домікаў будаўнікоў сведчыць, што працы вядуцца не ў адну змену.

Будаўнікі хоць і атрымалі інструкцыі не ўступаць у размовы з незнаёмымі людзьмі, але кажуць: «Ну так, гэта ён сабе будуе дом... Цяжка сказаць, колькі тут канкрэтна квадратных метраў, але нават не тысяча, мабыць, дзве тысячы як мінімум. Бо тут жа не толькі жылыя памяшканні, але і басейн, і ніжнія паверхі гаспадарчыя. Усё прадумана...»

**Радыё «Свабода»**



Выгляд з тылу: вялікая тэрыторыя яшчэ не асвоеная.



Архітэктурныя імправізацыі: мадэрновы дом і класічнае шале.

**Пошта**

## Маці Васьковіча дзякуе ўсім знаёмым і незнаёмым людзям

Хачу праз вашу газету падзякаваць усім знаёмым і незнаёмым людзям за правядзенне дня нараджэння майго сына Яўгена, якое арганізавалі Таісія Карлаўна, Анатоль Казіміравіч, Алеся і іншыя. На жаль, я не ведаю іх прозвішчаў. Нізкі вам паклон не толькі за маральную, але і грамадную матэрыяльную падтрымку, якая была вельмі своечасовай. Падтрымліваюць не толькі Яўгенія, але і нас. На вялікі жаль, я не здолела прысутнічаць на дні нараджэння праз працу. Партыя БХД падтрымлівае не толькі зняволеных, але таксама іх сем'і.

Нізкі паклон вам, дарагія сябры. Мы ўсе будзем маліцца за вас і вашых блізкіх. Яшчэ раз аграмадны дзякуй вам.

**З павагай, Рушанія Васьковіч**

Пісаць Яўгену Васьковічу можна на адрас: 212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сцісла**

**Міліцыя патрабуе ад настаўнікаў даносіць на эма, готаў, антыфашыстаў**

Настаўнікам Наваполацка загадалі праінфармаваць пра ўсіх дзяцей «агрэсіўнай накіраванасці». Настаўнікаў просяць паведаміць пра ўсіх футбольных фанатаў, скінхедаў, а таксама фанатаў музыкі: панкаў, рэпераў, металістаў.

**Бензін падаражэў на 5%**

Ад 14 сакавіка на 5% выраслі кошты аўтамабільнага паліва. Цяпер цэны выглядаюць наступным чынам:

АІ-95 — 6450 рублёў (было 6100)

АІ-92 — 6000 (5700)

Нармаль-80 — 5700 (5400)

Дызельнае паліва — 6600 (6300).

Гэта першае падаражэнне за год. Летась паліва даражэла 10 разоў.

**На праспекце BMW пратараніў два аўто**

Сур'ёзная аварыя здарылася ўвечары 12 сакавіка ў Мінску на перасячэнні вуліцы Казлова і праспекта Незалежнасці. BMW X5, які ехаў з боку пл. Якуба Коласа, на хуткасці 75-80 км/г паспрабаваў праехаць скрыжаванне на чырвонае святло. Дзе і сутыкнуўся з Citroen і Alfa Romeo. Ад удару BMW X5 вынесла на ходнікі. Пацярпеў адзін з кіроўцаў.

**Ахвярнага Баранава звольнілі з БТ**

«Больш сюды не тэлефануйце. Ён [Баранаў] тут больш не працуе», — адказалі «Еўрарадыё» ў працоўным кабінеце прадзюсара. Менавіта яго абвінавацілі ў фальсіфікацыях да «Еўрафэста».

**Сяргею Шупу адмоўлена ў беларускай візе**

Ён меўся весці ў Мінску прэзентацыю кнігі Альгерда Бахарэвіча. Шупа вядомы як радыёжурналіст, мовазнавец і перакладчык. Жыве ў Празе.

**АГ, ЯМ**

**Самае чытанае на сайце nn.by за 7-13 сакавіка**

1 Загад чыноўнікам: не дапускаць беларусіфікацыі і скарачэння ўжывання рускай мовы

2 Суздальцаў: «Пасля Лукашэнкі Беларусь атрымае новы аўтарытарны рэжым»

3 «Пагоня» вяртаецца на грошы

4 Ад Расіі на «Еўрабачанне» едуць бабулі, што спяваюць па-ўдмурцку + відэа

5 Юрый Зісер: За краіну ці супраць Лукашэнкі?

6 Спецыяльна да 8 Сакавіка: самыя сэксуальныя мужчыны Беларусі

7 Жанчына-кіроўца пасля ДТЗ кінула сяброўку паміраць у пабітым аўто + фота

8 «Чорны спіс»: Стэфановіча не выпусцілі з Беларусі

9 Яраслаў Пясецкі: «Мяркую, за тэрактам стаіць большае зло, чым тэтыя двое»

10 Пефціеў будуе сабе пад Мінскам велізарны дом

# Загад чыноўнікам: не дапускаць беларусіфікацыі

Працяг са старонкі 1.

Мы патэлефанавалі ў Брэсцкі аблвыканкам, каб пераканацца ў сапраўднасці дакумента.

«Так, сапраўдны, — адразу сказала спн. Клімаховіч. — Яны ідуць за маім подпісам, бо ўсе дакументы праходзяць праз мой аддзел, а не адразу да Сумара. Адкуль ён да вас трапіў?»

Даведацца ад Вольгі Клімаховіч, якія меры будуць прымяняць, каб «спыніць прымусовую беларусіфікацыю», нам не ўдалося.

Некалькі гадоў таму ў Брэсцкім аблвыканкаме кіраўнік аддзела ідэалогіі Аляксандр Рагачук прапаноўваў чыноўнікам раз на тыдзень размаўляць на працы і з наведнікамі па-беларуску. Рагачук ужо даўно не працуе ў аблвыканкаме, а іншых асаблівых праяваў беларусізацыі ад чыноўнікаў у Брэсцкай вобласці, дый у іншых рэгіёнах, заўважана не было.

Што датычыць першага пункта дакумента, які заклікае да «аптымізацыі расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцей», то гэта можа азначаць спыненне гэтых праектаў.

Зусім нядаўна міністр культуры Павел Латушка запусціў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі», якая мела на мэце адраджэнне многіх замкаў, у тым ліку на тэрыторыі Брэстчыны. Цяпер гэтая праграма можа апынуцца пад пытаннем.

Варта адзначыць, што Павел Латушка быў абвешчаны адным з вінаватых у «фальсіфікацыі вынікаў «Еўрафэсту». Міністру, як і старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку, былі абвешчаныя вымовы.




Пра якую «беларусіфікацыю» можа ісці гаворка, калі летась па-беларуску ў краіне вучылася толькі 19% школьнікаў — драматычна нізкая лічба.

Калі ў 1994/1995 навучальным годзе (год прыходу да ўлады Лукашэнкі) у першыя класы з беларускай моваю навучання набіралася 75% дзяцей, то ў наступным толькі 38%. Дагэтуль няма ніводнай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы! Хоць студэнты і грамадскасць гэтага даўно дабіваюцца. Абсурд: школьнікі вучацца па-беларуску, але не маюць універсітэтаў, дзе маглі б працягваць вучыцца па-беларуску. «Элегантная русіфікацыя» ажыццяўляецца з дапамогай такіх вось прыёмаў.

Пра інтэнсіўную русіфікацыю сведчаць вынікі двух перапісаў насельніцтва, якія праходзілі за часамі незалежнасці. Калі ў 1999 па-беларуску дома размаўляла 36,7% жыхароў краіны, то ў 2009 толькі 23,4%. Няма другой краіны ў Еўропе, дзе б так імкліва змяняўся моўны баланс.

«Пытанні моўныя ў краіне вырашаныя раз і назаўсёды. Прынамсі, калі я буду прэзідэнтам. Мы гэтае пытанне рашылі на рэферэндуме. Мова — гэта тая сфера, якая не церпіць гвалту. Людзі павінны вырашаць самі. Толькі ідыёт у Беларусі можа адмовіцца ад расійскай мовы. У нас няма тэрмінаў па фізіцы, хіміі на беларускай мове. А тыя, што ёсць, сорамна гаварыць. У рускай мове, не расейскай, як некаторыя называюць, наша душа», — казаў Лукашэнка ў снежні 2009.

**Зміцер Панкавец**



Для служебного пользования
Экз. № 1

Председателю облисполкома
Сумару К.А.

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА
02.03.2012 № 77-1-ДСП
г. Брест

О выполнении поручений Президента Республики Беларусь (к входящему номеру 58/77-1-ДСП от 02.03.2012)

Уважаемый Константин Андреевич!

Во исполнение поручений Главы государства, данных 24 февраля 2012 г. в ходе совещания по итогам проведения финала Национального телевизионного музыкального проекта "Еврофест", Первый заместитель Главы Администрации Президента Республики Беларусь А.М.Радьков обратился к Вам с просьбой в 2012 году:

обеспечить оптимизацию расходов местных бюджетов на реставрацию и реконструкцию историко-культурных ценностей, постановку спектаклей, фильмов, концертных программ, проведение культурно-развлекательных мероприятий;

принять конкретные меры по недопущению проведения руководителями государственных органов, иных организаций политики принудительной белорусификации и искусственного сокращения использования русского языка в их деятельности.

Заместитель начальника управления делами облисполкома, заведующий отделом по организационно-методической работе и делопроизводству — О.Н.Климахович



БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ — БРЕСТСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

Бысюку Г.Г.
Вабищевичу И.Н.
Цырельчуку А.А.
Тихончуку М.А.
Председателям горрайисполкомов

*Для организации исполнения и доведения до сведения заинтересованных.*

Цуприку Л.А.

ю. [подпіс] К.А.Сумар




# «Чорны спіс»

Улады **не пускаюць** за мяжу апазіцыянераў.

На мінулым тыдні беларуска-літоўскую мяжу не змаглі прайсці палітыкі Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін, Віктар Карняенка і праваабаронца Валянцін Стэфановіч.

Прычыну ім не растлумачылі, а параілі звяртацца ў аддзел міграцыі і грамадзянства па месцы жыхарства.

Спісы невыязных апазіцыянераў сталі адказам на забарону беларускім чыноўнікам наведваць Еўрасаюз. Па неафіцыйнай інфармацыі, за мяжу могуць не пусціць аж 108 іншадумцаў, нібыта за іх заклікі да санкцый.

Тым не менш, палітыкі паспяхова дабраліся да Вільні, каб прыняць удзел у святкаванні аднаўлення незалежнасці Літвы. Дык ці ёсць эфектыўнасць у такіх дзеяннях?

«Наш выезд — гэта форма пратэсту і аднаўлення дзеянняў нормаў Канстытуцыі датычна свайго права на свабоднае перамяшчэнне. Спіс палітычных невыязных — гэта антыканстытуцыйнае рашэнне ўладаў РБ», — пераканаў Анатоль Лябедзька.

**ЗП**

**Каментар**

# Эміграцыйны ўрад можа быць сфармаваны толькі на базе Рады БНР

Піша **Янка Запруднік**.

1 сакавіка адбылася на сайце радыё «Свабода» анлайн-канфэрэнцыя з былым нямецкім дыпламатам Гансам-Георгам Вікам. Адна са слухачак задала яму два пытанні: «Што Вы ведаеце аб Беларускай Народнай Рэспубліцы? І ад якой даты адлічаеце паўставанне сучаснай беларускай дзяржаўнасці?»

У адказах сп.Вік назваў БНР 1918 году «незалежнай дзяржавай», зазначыўшы пры гэтым, што дзяржава гэтая «была праз хуткі час захопленая камуністамі». Але слухачка ха-

## Ці не агучвае Вік ідэі эміграцыйнага ўрада з новых палітэмігрантаў

цела пачуць больш ад уплывовага замежнага дыпламата. «Ці не лічыце Вы, — папыталася яна, — каб прадухіліць знішчэнне Беларусі, варта Радзе БНР надаць статус часовага ўраду Беларусі ці ўраду на выгнанні? Хто, на Ваш погляд, павінен быў бы ініцыяваць працэдуру?»

Ганс-Георг Вік адразу ж заявіў катэгарычна: «Рада БНР сёння не можа быць прызнанай аніводнай дзяржавай урадам у выгнанні».

Катэгарычнасць заявы сп. Віка пра непрызнаванне Рады БНР абумоўлена, як выглядае, ягонай далейшай заявай.

А сказаў ён вось што: «Пасля антыканстытуцыйнага перавароту ў 1996-м ніхто так і не паспрабаваў стварыць эміграцыйны ўрад у замежжы. Пра гэта можна пачаць думаць цяпер, улічваючы апошнюю напружанасць у стасунках паміж ЕС і Мінскам».

Дык ці не агучвае гэтым сп. Вік (свой асабісты ці калектыўны?) праект стварэння эміграцыйнага ўраду Беларусі, складзенага з новых беларускіх палітычных эмігрантаў? Калі так, то ён глыбока памыляецца, што гэткі ўрад павінен фармавацца ў абход гістарычнае Рады БНР. Наадварот, усякі беларускі замежны ўрад будзе найбольш эфектыўным, калі ён будзе сфармаваны на ідэйнай базе Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дзейнасць замежнага ўрада мусіць мець пад сабой гістарычны грунт, ідэйную спадчыну, лёсы папярэдніх дзеячоў-патрыётаў, а таксама прэцэдэнты прызнаваньня Рады як інстытута Рады як носьбіта ідэі незалежнай беларускае дэмакратычнае дзяржавы.

Хоць дыпламатычная гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі і Рады БНР вывучаная толькі ў агульных рысах, факты прызнання Рады БНР як ураду на выгнаньні, асабліва прызнаньня de facto, агульнавядомыя. Рада БНР, пры розных старшынях, была прызнаваная праз супрацоўніцтва зь ёю з боку розных урадаў у розныя часы.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ў нядаўным часе правяла шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі ўрадаў у сталіцах Чэхіі, Польшчы, Эстоніі і Латвіі.

Нават урад Рэспублікі Беларусь на пачатку 1990-х прызнаў быў de facto Раду БНР пад старшынствам Язэпа Сажыча, калі



**Янка Запруднік**
Доктар гісторыі, адзін з лідараў беларускай дыяспары ў ЗША.

міністэрства замежных справаў РБ рабіла намаганьні пераняць ад Рады БНР ейны мандат.

Як ведама, на такі перадчасны крок Рада БНР не пайшла. Яна працягвае сваю дзейнасць пад старшынствам Івонкі Сурвіллы ды паступова папаўняецца (да ведама сп. Віка) новымі сябрамі з сучаснай Беларусі.

# Суздальцаў: «Пасля Лукашэнкі Беларусь атрымае новы аўтарытарны рэжым»

**Расійскі палітолаг выказвае сваё бачанні праграмы Каліноўскага, узроўню адукацыі ў Беларусі і перспектываў нашай краіны.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Суздальцава дэпартавалі з Беларусі ў сакавіку 2006. Вырашылі, што ён пагражае нацыянальнай беспецы краіны.

Андрэй Суздальцаў сустракае гасцей у кабінеце намесніка дэкана Вышэйшай школы эканомікі. Дабрацца да яго нялёгка — трэба аформіць пропуск у адным будынку, пасля праверкі дакументаў трапіць у іншы і, прайшоўшы ахову, адшукаць у бясконцых калідорах патрэбны кабінет. З «Нашай Нівай» Суздальцаў знаёмы: «Гэта на вашым сайце мяне ў каментарах шпіёнам называюць! Але які я шпіён?» — рытарычна пытаецца ён.

Гэтае спрэчнае і дыскусійнае інтэрв'ю стала адным з найбольш чытаных на сайце nn.by.

### Чаму праграма Каліноўскага не запрацавала ў Маскве

**«Наша Ніва»: Вышэйшая школа эканомікі, у якой Вы працуеце, — гэта сур'ёзная ўстанова?**

**Андрэй Суздальцаў:** У нас другі рэйтынг у краіне, мы стаім на адным узроўні з Гарвардам, Стэнфардам [насамрэч гэта не так — «НН»]. Адукацыя дазваляе працаваць у любым пункце Зямлі. Студэнтам даюцца дзве свабодныя замежныя мовы і гіганцкі аб'ём эканомікі. Палова лекцый чытаецца па-англійску. Але для таго ўніверсітэт і стварыўся, каб гадаваць эліту, якая б не з'язджала з краіны, а вучылася тут. Усё вельмі сур'ёзна, я прыходжу на працу а 8-й раніцы і сыходжу аб 11-й вечара. У дэканаце ёсць і пакоі для адпачынку, і кухня, і душ.

**«НН»: А беларусаў навучаецца шмат?**

**АС:** На жаль, у Беларусі вельмі нізкі ўзровень адукацыі. Напрыклад, з чацвёртага курса Акадэміі кіравання ў Мінску да нас перайшоў хлопчык, ён быў круглы выдатнік. Ён пайшоў вучыцца на курс раней, але ўсё адно ледзь скончыў універсітэт. Дарэчы, мы хацелі працягнуць праграму Каліноўскага ў Маскве. Я рыхтаваў адпаведны ліст на імя прэзідэнта Расіі, але пасля зразумеў, што ўзнікнуць праблемы. Студэнтаў-каліноўцаў адпраўляюць у Польшчу ў вельмі слабыя ВНУ. Яны там недзе бадзяюцца і ўрэшце атрымліваюць дыплом. Але мы так не маглі зрабіць. Таму што калі б Расія дала дрэнную адукацыю, то беларусы задзяўблі б.

**«НН»: У Пінску спрабавалі стварыць універсітэт з частковым выкладаннем па-англійску…**

**АС:** Нават у Маскве такое цяжка стварыць, а дзе ж у Пінску кадры ўзяць? Гэта самае галоўнае пытанне. Адукацыя ў Беларусі

> **Румас шмат што разумее »**

яшчэ ў савецкія часы была прыстойная толькі ў двух галінах, гэта політэхнічная і лінгвістычная. Беларусы двухмоўныя, таму ім іншыя мовы лёгка даваліся. Усё гуманітарнае было кандовае, а стала яшчэ горш. Гэта не ўніверсітэты, а каледжы. Нібыта адукацыя спынілася ў 1980-х гадах.

**Андрэй Суздальцаў**

Нарадзіўся ў 1960 ва Уладзівастоку. Скончыў мясцовы гістфак, а ў пачатку 1990-ых пераехаў у Беларусь. У 2006 быў высланы з краіны, бо «ставіў пад пагрозу нацыянальную бяспеку Рэспублікі Беларусь». З таго часу жыве і працуе ў Маскве, вядзе сайт PolitOboz.com.

### Лукашэнка — перашкода ўсяму

**«НН»: Цяпер пра палітыку. Падчас кіравання Мядзведзева Беларусь упершыню пачала будаваць хоць нейкія адносіны з Еўрасаюзам. Ці не атрымаецца, што з вяртаннем Пуціна Расія будзе больш жорстка ўказваць Беларусі, з кім сябраваць, а з кім не?**

**АС:** Фармальна з прыходам новага прэзідэнта нічога не змяняецца, але адна з задач, пастаўленых у праграме Пуціна, — ажыўленне Адзінай эканамічнай прасторы, пад якую Беларусь атрымала гіганцкія датацыі. Пуцін будзе настойваць, каб падпісаныя пагадненні выконваліся. Лукашэнка, можа, і хацеў бы іх выконваць, але не можа! Сістэма, створаная ім, у прынцыпе нерэфармавальная. Гэта канструкцыя, пабудаваная па прынцыпе даміно. Адна костка ўпала — пасыпаліся ўсе, і Лукашэнка гэта адчувае. Але нават калі б ён захацеў паспрабаваць ажыццявіць рэформы, яму гэтага не дадуць зрабіць.

**«НН»: Хто?**

**АС:** Ёсць людзі, якія зацікаўленыя ў рэжыме Лукашэнкі, і яны вельмі моцныя. Гэта і алігархі, і мясцовы бізнэс, і наменклатура, і дырэктары прадпрыемстваў. Гэты слой расце — у Беларусі 10 тысяч даляравых мільянераў! Іх задавальняе існуючы лад, які дазваляе ім зарабляць. А для Пуціна АЭП — гэта прынцыповае пытанне. Не можа так быць, што два ўдзельнікі — Расія і Казахстан — працуюць на супольны кацёл, а трэцяя краіна толькі карыстаецца здабыткамі. Канфлікт запраграмаваны.

**«НН»: Канфлікт эканамічны ці палітычны?**

**АС:** Эканамічны, але для Беларусі ўсё гэта мае ролю палітычную, таму што эканоміка несамадастатковая. Без датацыяў яна існаваць не зможа. Але самае сумнае, што, калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады, эканоміка неяк жыла, хоць і было вельмі цяжка. Цяпер беларуская эканамічная мадэль базіруецца на чатырох асновах: доступ да танных энерганосьбітаў, адкрыты расійскі рынак, закрыты беларускі рынак і дзяржаўныя манаполіі. Выбіваеш адзін з гэтых пунктаў, і ўся сістэма складваецца як картачны домік. Гэта тупік.

Ёсць і яшчэ адзін парадокс. Беларусь не гатовая да інтэграцыі, але без яе пражыць не зможа. Атрымае газ па $400 — і загнецца на працягу некалькіх тыдняў. Прычым і рэфармаванню эканомікі, і інтэграцыі перашкаджае менавіта Лукашэнка.

### Хто наступны пасля Лукашэнкі?

**«НН»: Ці засталіся ў беларускай уладзе людзі, здольныя замяніць яго?**

**АС:** Нікога. Разумны чалавек, з рынкавымі поглядамі — ён пойдзе працаваць у такі рэжым?

**«НН»: Напрыклад, віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Выглядае ліберальна настроеным…**

**АС:** Румас нядаўна напісаў ліст у Еўразійскую эканамічную камісію з патрабаваннем, каб яна падтрымала Беларусь у адносінах санкцый. Ён не разумее, што гэта не палітычны, а эканамічны орган. Спадзяваўся, што нейкія рыначнікі нешта зробяць — бессэнсоўна. Яны адукаваныя, але яны пайшлі ў каманду Лукашэнкі, таму будуць гуляць па ягоных правілах. Румас шмат што разумее, губернатар Віцебшчыны Косінец... Гродзенскі Шапіра таксама ўсё разумее, але ўзгадайце, як з АМАПам разганяў на мяжы «чаўнакоў».

**«НН»: А з прадстаўнікоў апазіцыі?**

**АС:** У Маскве перыядычна сядзяць людзі, якія кажуць: у нас ёсць добрая праграма, мы хочам замяніць Лукашэнку, дайце грошы. Толькі не яму, а нам. Але, па-

> **Я такіх лукашэнак сустракаў дзясяткамі »**

першае, Расія дае грошы не Лукашэнку, а беларускай дзяржаве. Мы зацікаўленыя ў тым, каб Беларусь існавала. Калі б Расія хацела інкарпараваць Беларусь, яна зрабіла б гэта яшчэ ў 1990-я. Але нам не трэба мяжа з НАТА, гэта пытанне бяспекі. Па-другое, ні празаходнія, ні прарасійскія сілы Расію не цікавяць. Патрэбныя сілы, якія выказваюць інтарэсы беларускага народа. І гэта Лукашэнка — твар беларускага народа, ён хітры, заўсёды выкруціцца, думае: я разумны, а вы, маскалі, тупыя. І я такіх лукашэнак сустракаў дзясяткамі. Пры гэтым я ваш народ вельмі люблю, у мяне жонка беларуска, дзеці — беларусы, прычым беларускамоўныя.

**«НН»: Калі казаць пра фактар форс-мажору? Ніхто ж не жыве вечна.**

**АС:** Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне для любога аўтарытарнага рэжыму. Будзе вар'яцкая схватка за ўладу. Пасля — другі аўтарытарны дзеяч, бо Беларусь вельмі далёкая ад дэмакратыі. Але новы рэжым будзе слабейшым.

### Расія гатовая заплаціць за ўвядзенне рубля

**«НН»: Садружнасць незалежных дзяржаў, саюзная дзяржава — ці ёсць перспектывы ў існаванні гэтых арганізацый са з'яўленнем Адзінай эканамічнай прасторы?**

**АС:** СНД — універсальная арганізацыя, якая прадстаўляе рэгіён. У яе рамках заключана мноства дакументаў, якія, напрыклад, рэгулююць бязвізавы рэжым, транзіт і іншыя пытанні. Саюзная дзяржава — проста дадатковая пляцоўка, дзе можна папрасіць грошы ў Масквы.

**«НН»: А што наконт расійскага рубля?**

**АС:** Лукашэнка можа пайсці на ўвядзенне расійскага рубля толькі ўзамен на тое, што Расія цалкам возьме Беларусь на ўтрыманне. Гэта мара Лукашэнкі — за эканоміку адказвае Расія, а за палітыку — ён. І ён працягвае гэтую форму прасоўваць. І для Расіі стварэнне рэгіянальнай валюты выгадна, і мы можам пайсці на сур'ёзныя выдаткі. Але трэба разумець, што валютны саюз мусіць ісці апошнім, перад гэтым павінны быць створаныя эканамічны саюз, агульны рынак, забяспечанае свабоднае перасоўванне тавару, капіталу і працы. Але калі ўсё гэта зрабіць, то Беларусь будзе ўжо зусім іншая. Зрэшты, Расія можа нічога і не рабіць, і тады Беларусь чакае лёс паўночнай Малдовы. І гэта таксама рэалістычны варыянт.

Праз трохкратную розніцу ў заробках будзе высмоктваца працоўная сіла. Беларусы самі пачнуць з'язджаць у Расію. А Беларусь застанецца крайнай удовай і дзяцей.

**Гутарыў Ягор Марціновіч, Масква**

# На грошы вярнулася «Пагоня»

**На 200-тысячнай банкноце намаляваны Магілёўскі мастацкі музей.**

12 сакавіка Нацбанк прэзентаваў новую, 200-тысячную банкноту. Каб пазбегнуць падробак, інфармацыя пра тое, што будзе намалявана на грошах, захоўвалася ў таямніцы. Сярод «фаварытаў» называліся будынкі «Мінск-Арэны» і новай Нацыянальнай бібліятэкі.

Аднак Нацбанк падрыхтаваў сюрпрыз. На шэра-зялёнай банкноце вырашылі размясціць выяву Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя Масленікава. З адваротнага боку зроблены калаж з архітэктурных элементаў.

Будынак з'яўляецца помнікам архітэктуры пачатку XX стагоддзя, у ім спалучыліся рысы мадэрну, псеўдарускага і позняга класіцызму. Да рэвалюцыі ў ім знаходзіўся зямельны банк, а за саветамі — гістарычны музей. У гісторыю Беларусі музей увайшоў у вайну, калі з яго знік крыж Ефрасінні Полацкай.

Выбар Нацбанка тлумачыцца проста — улады вырашылі кіравацца прынцыпам геаграфічнай справядлівасці. Архітэктуры Мінска былі прысвечаны многія банкноты, а вось кожная з абласцей, апроч Магілёўскай, была прадстаўленая па адным разе. Праўда, выбралі нічым не выбітны будынак.

Цікава, што на адваротным баку банкноты размешчаны невялічкі герб Магілёва — брама з рыцарам. А на ёй — маленечкая выява «Пагоні».

Новая 200-тысячная банкнота — першая з аўтографам новай старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай. На грошы нанеслі ажно дзесяць ступеняў абароны, сярод іншага, банкнота будзе свяціцца ў цемры.

Яе намінал складае ўсяго $25. Імклівая інфляцыя абясцэньвае беларускія грошы ўсё мацней, таму з'яўленне новых банкнотаў — патрэба часу.

ЯМ



…а на адваротным — калаж з яго архітэктурных элементаў.



На пярэднім баку магілёўскі мастацкі музей…

# Maxima ў Мінск не ідзе

**Літоўская гандлёвая сетка абвяргае звесткі пра выхад на беларускі рынак.**

Найбуйнейшая гандлёвая сетка Балтыі Maxima grupė абвяргае звесткі пра тое, што кампанія выходзіць на беларускі рынак.

«Магу толькі адно сказаць: на самай справе Maxima grupė ніякага пашырэння ў Беларусі не вядзе», — сказаў інфармагенцтву Delfi дырэктар дэпартамента па фармаванні іміджу Гедрус Юазапавічус. Паводле яго слоў, паведамленні пра развіццё групай бізнэсу ў Беларусі, якія з'явіліся ў друку, — «качка».

12 сакавіка беларускія СМІ пашырылі інфармацыю, што ў бліжэйшы час у Беларусі пачнецца актыўнае будаўніцтва сеткі супермаркетаў Maxima, а першы з'явіцца ў Савецкім раёне Мінска, на скрыжаванні вуліц Шырокай і Багдановіча.

Першым інфармацыю надрукаваў сайт агенцтва «Мінск-навіны» са спасылкай на Камітэт архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама. Карэспандэнту «НН» у Камітэце таксама пацвярджалі, што дазвол Мінгарвыканкама на будаўніцтва супермаркета ўжо атрыманы.

«Гэта не была афіцыйная інфармацыя, вось адзінае, што я магу пракаментаваць, — сказала «НН» супрацоўніца Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва пасля таго, як Maxima grupė ўсё абвергла. — Калі хочаце атрымаць афіцыйны каментар, падайце зварот у пісьмовым выглядзе. Ён будзе вельмі хутка разгледжаны». Чыноўніца ўсё ж выказала спадзяванне, што гіпермаркет «можа і будзе пабудаваны».

Пазней «Мінск-навіны» змясцілі ўдакладненую інфармацыю: супермаркет на рагу Багдановіча і Шырокай збіраецца будаваць іншая літоўская кампанія — «Глера Капа». Інвестары прапрацоўваюць пытанне пра ўдзел у будаўніцтве «вядомых еўрапейскіх сеткавых гандлёвых кампаній».

«Глера Маркет» — літоўская кампанія, якая спадзяецца пабудаваць сетку невялікіх крамаў па ўсёй Беларусі. Пагадненні наконт будаўніцтва заключаныя ў Полацку, Светлагорску, Салігорску, Рэчыцы, Жлобіне і Мазыры. Кожная з дамоў прадугледжвае больш за $1 мільён еўра інвестыцый. Цяпер літоўцы хочуць заняць сваю нішу ў Мінску.

На момант здачы нумару ў друк так і не было ясна: ці то «Максіма» аператыўна «асадзіла назад», спалохаўшыся эканамічных санкцый ЕС, ці то адбылася ўсё ж памылка з назвамі кампаній.



У гандлёвы цэнтр «Акрапаліс» з гіпермаркетам MAXIMA штовыходныя прыязджаюць тысячы беларусаў.

### Літоўскі мільярдэр Нумавічус

Крамы Maxima ўваходзяць у групу кампаній Vilniaus prekyba («Віленскі гандаль»), 60% акцый якой належаць найбагацейшаму літоўцу Нерыюсу Нумавічусу. Ягонае багацце, па розных ацэнках, даходзіць да $1 мільярда. Крамамі ахопленая ўся Прыбалтыка, але патроху літоўцы заваёўваюць і іншыя рынкі. Некалькі гадоў таму яны купілі мясцовую сетку крамаў у Балгарыі, а сёлета ўвайшлі і на польскі рынак. Гіпермаркет «Акрапаліс», у які штовыходныя прыязджаюць тысячы беларусаў, — таксама маёмасць Нумавічуса.

### Прыбалтыйскія «Суседзі»

Літоўскія бізнэсоўцы — ледзь не адзіныя прадстаўнікі Еўрасаюза, якія паспяхова працуюць на рынку рознічнага гандлю ў Беларусі. Самай багатай жанчынай-бізнэсоўцай у нашай краіне лічыцца Алма Яўнцеменэ. Яе кампанія «Стыма» валодае крамамі «Суседзі» і «Сцяжынка» (агулам каля 30 аб'ектаў), піцэрыямі «Піца Тэмпа» і рэстаранамі беларускай кухні «Васількі». Апроч таго, літоўка кантралюе кампанію «Фрутімпарт», якая займаецца манапольнымі пастаўкамі садавіны і гародніны ў Беларусь.

Будаўнічыя крамы «Ома», раскіданыя ў Мінску, Гомелі, Бабруйску і Баранавічах, таксама належаць літоўцам. Іх уладальнікі — браты Аўгустынас і Артурас Ракаўскасы. Яны ўзначальваюць кампанію Senukai, у якой, апроч літоўскага, круціцца яшчэ і фінскі капітал.

Ягор Марціновіч, СМ

# ІП-шнікам удвая паднялі падатак

**Але заплацяць за гэта кліенты.**

Нягледзячы на шматлікія просьбы прадпрымальнікаў, з 7 сакавіка стаўкі адзінага падатку для большасці ІП-шнікаў Мінска выраслі ў 1,9 разу. У афіцыйнай заяве мінскай інспекцыі па падатках і зборах тлумачыцца, што быў праведзены аналіз даходаў прадпрымальнікаў. Згодна з ім, выручка прадпрымальнікаў вырасла ў 1,3-1,5 разу. Павялічваючы падатак, улады ўлічылі і чаканы ўзровень інфляцыі. Для тых, хто гандлюе творамі мастацтва, зробленая зніжка, падатак узрасце на 10% (каля 100 тысяч рублёў). А вось для рэпетытараў застанецца нязменным (185 тысяч рублёў).

Прадпрымальнікі наракаюць, што будуць вымушаныя падняць кошт сваіх паслуг, каб кампенсаваць свае выдаткі. «Я прадаю адзенне на рынку Ждановічы, — расказвае Ганна А. — Цяпер адзіны падатак для мяне будзе складаць 1,15 мільёна рублёў, а не 620 тысяч, як раней. Змены, можа, і не прынцыповыя — давядзецца заплаціць на адну куртку больш, — але ўсё адно непрыемныя. Тым больш што трэба плаціць і арэнду, і камунальныя плацяжы. Я, як і суседнія прадаўцы, збіраюся падняць больш цэнаў на 5-10 тысяч рублёў, каб «вярнуць» сабе грошы».

Якія яшчэ схемы змяншэння выдаткаў прымяняюцца на рынках? «Тыя, у каго выручка невялікая, плацяць не адзіны падатак, а агульны, які залежыць ад аб'ёму выручкі. Далёка не кожны купец просіць чэк, таму выручка часцяком не праводзіцца праз касавы апарат. Хоць ёсць рызыка атрымаць штраф, ад 700 тысяч рублёў, — прызнаецца ІП-шнік Андрэй С. з аднаго з мінскіх рынкаў. — Яшчэ год таму дзейнічаў мараторый на правядзенне праверак у індывідуальных прадпрымальнікаў, тады ўвогуле ніхто не баяўся».

ЯМ

## Сцісла

### Ермакова: можам абысціся і без МВФ

Беларусь спадзявалася атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду $3,5 мільярда, каб заплаціць па старых даўгах. Грошы краіне патрэбныя, прызналася Ермакова, але праз высунутыя патрабаванні Беларусь іх наўрад ці атрымае. Ермакова прызнала, што супраць выступаюць краіны-члены МВФ. Беларусь сапсавала адносіны з самымі ўплывовымі з іх.

### Грэцыя зноў адтэрмінавала дэфолт

Прыватныя трымальнікі аблігацый Грэцыі пагадзіліся, каб ім аддалі даўгі не зараз, а пазней. Калі б згоды не ўдалося дасягнуць, краіну чакаў бы дэфолт, а страты еўразоны склалі б не менш за 1 трыльён еўра.

### Прырост ВУП — 3%

Такі рост дасягнуты за студзень-люты 2012 года. Паводле планаў урада, гадавы рост мусіць скласці 5-5,5%.

### Следам за інфляцыяй

Стаўка рэфінансавання ад 1 сакавіка зніжаная да 38%. Гэта дазволіць даць прадпрыемствам таннейшыя крэдыты. Аднак гэта таксама будзе спрыяць росту цэнаў.

ЯМ

# Чаму ідзе абвал балаў на ЦТ?

Гутарка з унікальным рэпетытарам фізікі і матэматыкі **Яўгенам Лівянтам**.

| Прадмет | 2005 | 2006 | 2010 | 2011 |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова | 42,23 | 36,49 | 31,37 | 31,11 |
| Матэматыка | 28,18 | 26,30 | 21,76 | 21,56 |
| Руская мова | 43,07 | 34,72 | 31,27 | 30,48 |
| Гісторыя Беларусі | 39,87 | 40,13 | 35,10 | 34,88 |
| Фізіка | 33,45 | 30,11 | 18,10 | 18,60 |


PHOTO.BYMEDIA.NET

### Якія настаўнікі, такія і вучні…

На думку сп.Лівянта, галоўная бяда сучаснай школы — у настаўніках. Праблема як у нізкім заробку, так і ў рабскім становішчы педагога.

Больш безабароннай прафесіі, чым настаўнік, няма. Настаўніцкі прафсаюз нічога не значыць і нічога не робіць.

Добры прафесіянал, якому 35—40 гадоў, не можа доўга вытрымліваць знаходжанне ў такім рабскім становішчы. І не толькі таму, што заробак мізэрны. Таму ў пэўны момант ён сыходзіць.

### Хто ідзе ў пед?

Педінстытуты ніколі не лічыліся самымі прэстыжнымі ВНУ. Але туды паступалі ў асноўным «харашысты» і «выдатнікі». Зараз жа, пры заробках, якія ёсць, у «пед» ідуць тыя, хто не зможа паступіць у іншыя ВНУ.

«Калегі з фізічнага і матэматычнага факультэта расказваюць, што першыя паўгода яны не займаюцца па праграме. Яны вучаць студэнтаў элементарным школьным ведам. Рашаюць ураўненні для 6-7 класаў тыпу 10x+5=20».

У гэтым годзе педагагічныя ВНУ краіны не дабралі студэнтаў нават на бясплатную форму навучання.

### Вызваліце ад пісаніны!

Калегі Лівянта, якія працуюць у школе, скардзяцца на вялікую колькасць папераў. Час марнуецца на папяровую працу, а, да прыкладу, на праверку сшыткаў настаўніку старэйшых класаў у тыдзень адводзіцца адна гадзіна. А гэта — важны момант у працэсе навучання, зваротная сувязь з вучнем.

### Што з падручнікамі?

Галоўны недахоп школьных падручнікаў — вялікая колькасць памылак і перанасычанасць непатрэбнай інфармацыяй.

«У падручніку па гісторыі пералічаны сотні імён, прычым імёны вялікіх людзей сустракаюцца гэтак часта, як і малавядомых».

Пра якасць школьных падручнікаў гаворыць і тое, што па іх ніхто не рыхтуецца да ўступных экзаменаў. Рэпетытары карыстаюцца вучэбнымі дапаможнікамі ці расійскімі падручнікамі, якія фактычна з'яўляюцца перавыданнем савецкіх. Употайкі так робяць і многія настаўнікі.

Праграмы па розных прадметах бываюць не звязаныя між сабой. Напрыклад, у падручніку 6 класа па фізіцы сустракаюцца задачы з адмоўнымі ступенямі. А па матэматыцы такое яшчэ не праходзілі!

### Рэформы: змяняем форму, пакідаем змест

«То вырашалі, вучыцца 12 ці 11 гадоў? Павінна быць 5-бальная ці 10-бальная сістэма? Патрэбна ці не школьная форма? ПТВ перайменавалі ў ліцэі, напэўна, у спадзяванні на тое, што цяпер яны будуць выпускаць Пушкіных і Кюхельбекераў».

Зараз ідзе дыскусія вакол правілаў паступлення ў ВНУ. І зноў у цэнтры ўвагі не сутнасць праблемы – узровень ведаў абітурыентаў, а абмяркоўваецца, напрыклад, адмена льготаў.

### Пра адмену профільных класаў

Раней, апроч гімназій і ліцэяў, была вялікая колькасць звычайных школ з профільнымі класамі. Туды ішлі вучні, якія хацелі вучыцца. У гэтых класах працавалі найбольш моцныя настаўнікі. Залежнасць такіх вучняў ад рэпетытараў была значна меншай, чым цяпер.

Пасля рэформы 2008 профілі скасавалі. Школы вярнуліся да 11-гадовага навучання і 5-дзёнкі. Меркавалася, што паглыбленыя веды вучні атрымаюць на факультатывах. Аднак гэта аказалася нядзейсным.

**На праверку сшыткаў настаўніку ў тыдзень адводзіцца адна гадзіна »**

Людзі хацелі адукацыі. Яны не прасілі грошай ці льгот. Для дзяржавы гэта каштавала капейкі (не тое што льготны крэдыт на кватэру). Бо што такое профільная адукацыя? Гэта значыць, настаўнікі і вучні бралі на сябе дадатковую нагрузку — больш урокаў ды хатніх заданняў. Але і вынік быў лепшы, што выгадна для ўсіх.

«У маёй галаве гэта не ўкладваецца. Навошта рэфармаваць тое, што нядрэнна працуе? У гэтым годзе ліквідавалі класы з музычным і харэаграфічным ухілам. Няўжо няма грошай на тое, каб дзеці займаліся музыкай ці танцамі?»

Усё гэта прывяло да таго, што асноўная частка выпускнікоў большменш ведаюць толькі праграму пачатковай школы: чытаць, не вельмі пісьменна пісаць, крыху лічыць.

«Калі вы мне не верыце, запытайце любога старшакласніка, чаму адбываецца змена пораў года, папрасіце прачытаць на памяць хаця б адзін верш Пушкіна ці Купалы, спытайце ў яго, хто такі Ленін або Вітаўт і гэтак далей».

**Аксана Рудовіч**



**Яўген Лівянт**

папулярны ў Мінску рэпетытар па матэматыцы і фізіцы. 24-гадовы вопыт выкладчыцкай дзейнасці. З 1996 — настаўнік вышэйшай катэгорыі. Адукацыя: вышэйшая, фізічны факультэт БДУ. Штогод рыхтуе да тэстаў каля сотні вучняў.

**Шаноўныя чытачы! Якія, на вашу думку, галоўныя праблемы ў сучаснай школе? Запрашаем бацькоў, настаўнікаў і ўсіх неабыякавых людзей выказаць сваё меркаванне, узяць удзел у дыскусіі. Чаму ўзровень ведаў так падае?**

# «Прашэнне ніколі не будзе шчырым пад гвалтам»

Легендарны дысідэнт Міхась Кукабака мяркуе, што **санкцыі не павінны распаўсюджвацца** на Лукашэнку.

17 гадоў Кукабака правёў у савецкіх турмах і вар'ятнях. Цяпер ён жыве ў Маскве, але сочыць за беларускімі рэаліямі.

**– Ці быў на Вас ціск, каб пакаяліся?**

**Міхась Кукабака:** Ціск быў ад пачатку. Выклікалі, прапаноўвалі выехаць, але чамусьці толькі праз Ізраіль. Але для гэтага патрабавалася падаць на памілаванне, прызнаць цалкам віну, узводзіць паклёп на самога сябе. На такую здраду самому сабе і людзям, якія мне дапамагалі, я пайсці прынцыпова не мог. Тады ціск быў іншы. Маўляў, гузік не зашпілены — 15 сутак штрафнога ізалятара.

**– Згадваючы Ваш вопыт галадовак, ці Вы дамагаліся чаго з іх дапамогай?**

**МК:** Галадоўка — гэта вельмі далікатны і тонкі момант. Гэта калі чалавек спрабуе ахвяраваць жыццём. Я праводзіў галадоўкі дэманстратыўныя, аднадзённыя ў Сусветны дзень правоў чалавека 10 снежня і ў Дзень палітзняволенага 30 кастрычніка. Галадаць трэба з вельмі важнай нагоды, калі чалавек хоча сваё жыццё паставіць на кон.




**Міхась Кукабака быў адным з самых смелых людзей СССР.**

**Міхась Кукабака**

нарадзіўся ў 1936 у Бабруйску. Палітвязень у часы СССР. Адкрыта пра сваё іншадумства ён заявіў у 1968, калі яго хацелі пасляць у складзе савецкіх войскаў у Чэхаславакію. Тады ён заявіў, што паверне зброю супраць акупантаў. Пісаў шматлікія артыкулы, якія распаўсюджваліся праз самвыдат і замежныя радыёстанцыі. Выступаў супраць русіфікацыі БССР. На прапанову КДБ маскоўскі інстытут Сербскага прызнаў Кукабаку шызафрэнікам, яго прымусова лячылі. Выпушчаны на свабоду і рэабілітаваны быў у часы перабудовы.

**– Як Вы ацэньваеце маральнае супрацьстаянне паміж Аляксандрам Лукашэнкам і ягонымі палітычнымі апанентамі, якія цяпер сядзяць у турме?**

**МК:** Лукашэнка карыстаецца досведам савецкіх кіраўнікоў, якія таксама выцягвалі з людзей памілаванні, штурхалі, каб яны здрадзілі сваім перакананням. Пазіцыя Аляксандра Лукашэнкі амаральная. Прашэнне ніколі не будзе шчырым пад гвалтам. А нашто яму гэта? Дзеля прапаганды? Нармальныя разумныя людзі зразумеюць, што гэта было пад ціскам, і гэта гонару Лукашэнку не дадасць.

**– Ці зменшыць гэта аўтарытэт тых палітыкаў, якія за кратамі падпішуць такое прашэнне?**

**МК:** Калі падпіша чалавек, значыць, дапусціў нейкую слабасць, некаторую капітуляцыю. Трэба сувымяраць сілы, альбо ты не баяшся, тады ты на тым узроўні, калі ў цябе сілы хапае, альбо калі ўзяўся, то не кажы, што не можаш. Канечне, на Захадзе гэта зразумеюць заўсёды, але я думаю, сам чалавек сябе заўсёды не зможа паважаць.

**– Які ў Захаду ёсць механізм, каб націснуць нжа рэжым у справе вызвалення палітвязняў?**

**МК:** Дзеянні ЕС і ЗША я лічу прынцыпова няслушнымі. Так, Лукашэнка ва ўладзе, і ўсялякія санкцыі толькі ўскладняюць сітуацыю. Трэба наадварот максімальна дапамагаць Беларусі. Ніякіх санкцый. Так, санкцыі могуць быць супраць асобных асобаў, але толькі не супраць Лукашэнкі. Супраць выканаўчай улады трэба. Лукашэнку трэба вучыць, трэба даць яму свабодны доступ у Еўропу, каб ён знаёміўся з эканомікай, з палітыкай. Ён жа палітычна не зусім пісьменны чалавек. Ён жыве савецкім мінулым.

**Тады ціск быў іншы »**

**Паводле радыё «Свабода»**

# Інфармацыйная ізаляцыя палітвязняў узмацняецца

А іх **адвакатаў цэнзуруюць.**

На мінулым тыдні з Андрэем Саннікавым сустрэўся адвакат. Але іх размова была адцэнзуравана. Па словах жонкі палітыка Ірыны Халіп, адвакат і Саннікаў абмяркоўвалі выключна юрыдычныя пытанні. «Андрэй не мог нічога сказаць ні пра ўмовы ўтрымання, ні пра стан яго здароўя, бо сустрэча з адвакатам праходзіць пры ўмовах жорсткай мадэрацыі з боку супрацоўнікаў калоніі», — сказала Халіп.

У «далёка не канфедыцыйнай абстаноўцы» праходзіла сустрэча з адвакатам і Зміцера Дашкевіча. Па словах Насты Палажанкі, адвакату забаранілі нават перадаваць навіны ад састарэлага бацькі Зміцера. У той жа час, на папярэдняй сустрэчы Дашкевіч паведаміў пра спробу падсадзіць яго ў камеру да асуджанага з нізкім статусам — «апушчанага». Гэта паўплывала б на аўтарытэт палітвязня сярод іншых асуджаных. З-за адмовы падпарадкавацца супрацоўнікам калоніі Зміцера пасадзілі ў карцар. Не выключана, што Дашкевіча правакуюць для таго, каб завесці на яго новую крымінальную справу.

Жонка Зміцера Бандарэнкі Вольга адзначыла, што лісты мужа сталі насіць толькі бытавы характар: ні слова пра палітыку. А адвакату таксама тэмы размоў абмежавалі юрыдычнымі пытаннямі.

Пэўная рэгулярнасць у ліставанні збілася паміж Мікалаем Статкевічам і яго жонкай Марынай Адамовіч. Па словах жанчыны, 9 сакавіка яна атрымала паштоўку. А вось лістоў няма. У Марыны была дамоўленасць з Мікалаем, што ён будзе пісаць па пэўных днях тыдня. Для таго, каб бачыць, выпускаюць лісты з турмы ці не. Але дамоўленасць не спрацоўвае. Марына спадзяецца, што ўсё-такі гэта выпадковасць, а не сістэмнае абмежаванне мужа ў лістах.

Адвакатка Тамара Сідарэнка, якая абараняла Уладзіміра Някляева і праз гэта страціла ліцэнзію, расказала, што закон не прадугледжвае нейкіх абмежаванняў. Ні тэмы размоў асуджаных з абаронцамі, ні працягласць іх сустрэч нельга абмяжоўваць. Як і слухаць іх размовы. Тое самае тычыцца і лістоў асуджаных. Акрамя таго, што ўсё па-за законнасцю, па словах Сідарэнкі, гэта яшчэ і амаральна.

**Сяргей Макарэвіч**




**Такі плакат быў вывешаны на будынку гандлёвага цэнтра «Паркінг» у Мінску 8 сакавіка. У гэты дзень Саннікаву споўнілася 58 гадоў.**

# Хто такія палітвязні?

У Беларусі да іх **залічваюць 15 чалавек.**

Палітыкі і праваабаронцы часта апелююць гэтым тэрмінам. Адных залічваюць да спісу палітвязняў, іншых — не. Сябры каардынацыйнай групы «За Волю» заявілі пра стварэнне Экспертнай рады па вызначэнні спісу палітасуджаных. «НН» звярнулася да праваабаронцаў-вясноўцаў, каб тыя патлумачылі механізм далучэння асуджаных да катэгорыі палітычных.

Па словах Таццяны Равякі, вясноўцы найперш кіруюцца крытэрыямі, якія распрацаваны **Human Rights Watch,** Саветам Еўропы, Міжнароднай амністыяй. Да паліт-вязняў яны залічваюць не проста людзей, якія пацярпелі за свае палітычныя перакананні. Іх дзеянні могуць утрымліваць правапарушэнні і абавязкова павінны быць палітычна матываванымі як з боку дзяржавы, так і з боку самога чалавека.

Калі маладыя людзі ў Бабруйску кінулі «кактэйль Молатава» ў будынак КДБ — злачынства. Але залічыць іх да палітвязняў дазваляе матывацыя маладых людзей — у знак пратэсту супраць неабгрунтаваных, на іх думку, затрыманняў мінскіх анархістаў, а таксама несправядлівая кваліфікацыя і празмернасць вынесенага пакарання — па 7 гадоў калоніі за пашкоджаныя дзверы будынка. І да такіх асобаў вясноўцы патрабуюць найперш належнага і непрадузятага суда.

Каардынацыйная група «За Волю» да вызначаных пятнаццаці палітвязняў прапанавала далучыць яшчэ траіх — Аляксандра Крутога, Аляксандра Малчанава і Юрыя Чыгілейчыка. Вясноўцы спіс пакуль не пашыраюць. Па словах Равякі, яны не валодаюць дастатковай інфармацыяй, каб адназначна нешта сцвярджаць.

**СМ**

Палітвязнямі ў Беларусі лічацца Мікалай Аўтуховіч, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Зміцер Бандарэнка, Сяргей Каваленка, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павал Севярынец, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Павал Сырамолатаў.

# Домрачава перагнала Расію

Чэмпіянат свету завершаны, Беларусь вяртаецца **з двума медалямі**.



Дар'я Домрачава фінішавала 5-й у масстарце (12,5 км) на Чэмпіянаце свету па біятлоне, што завяршыўся ў баварскім Рупольдынгу.

Перад гэтым Дар'я заваявала срэбра ў спрынце, а 4 сакавіка выйграла золата ў пагоні (гонка праследу) — гэта ўсе беларускія медалі на Чэмпіянаце свету. Яшчэ было чацвёртае месца ў эстафеце.

Медалі першынства размеркаваліся наступным чынам: Нарвегія — 6 медалёў (4+1+1), Францыя — 8 (3+5+0), Германія — 5 (2+1+2), Беларусь — 2 (1+1+0), Славенія — 2 (1+1+0), Швецыя — 5 (0+3+2), Расія — 2 (0+0+2), Украіна — 1 (0+0+1), Чэхія — 1 (0+0+1), Фінляндыя — 1 (0+0+1).

Для Расіі гэта самыя правальныя спаборніцтвы, пачынаючы з 1995. Дзякуючы поспехам Домрачавай, нашы апынуліся вышэй.

З 16 па 18 сакавіка ў расійскім Ханты-Мансійску пройдзе апошні этап Кубка свету па біятлоне. Пройдзе спрынт, пагоня і масстарт.

Дар'я Домрачава і Магдалена Нойнер выдуць на змаганне за Вялікі крышталёвы глобус. У Магдалены зараз 1093 балы, у Дар'і — 1061.

**Алег Гардзіенка**



## Вольскі запрашае ў Еўропу: візы — бясплатныя

28 красавіка пройдзе **канцэрт «Крамбамбулі»** ў Вільні.

Адбудзецца ён у клубе Loftas (Švitrigailos, g. 29). Гурт «Крамбамбуля» прэзентуе альбом «Драбадзі-драбада». У яго ўвайшлі італьянскія, французскія, харвацкія, шведскія, славацкія народныя хіты. У арыгінале і перастворaныя па-беларуску.

Прэзентаваць альбом на радзіме не ўдалося — дырэкцыя мінскага клуба Re:public адмяніла запланаваны канцэрт без яснага тлумачэння прычынаў. Лявон Вольскі абяцае, што на канцэрце слухачы пачуюць, апроч песняў з новага альбома, і «да болю знаёмыя старыя добрыя творы».

Аднаразовая віза ў Літву на тэрмін ад 27 красавіка да 1 траўня ўладальнікам квітка на канцэрт выдаецца бясплатна. Інфармацыя пра квіткі — (29) 655-55-96 (Velcom, MTC), (17) 280-15-10, e-mail: soundline@tut.by.

**СМ**

## У Смалявіцкім раёне ствараюць могілкі хатніх жывёл

Могілкі разлічаны **на 8 тысяч магіл** і 10 тысяч ячэек у калумбарыі.

Усіх жывёл будуць крэміраваць. Адкрыццё могілак запланаванае на май. Кошт паслуг складзе: выклік агента цэнтра рытуальных паслуг дамоў і дастаўка жывёліны — 45 тыс. рублёў, крэмацыя — 425 тыс., пахаванне — 425 тыс. рублёў.

Кожнае пахаванне разлічана на тры гады. Калі гаспадар жывёліны пажадае захаваць месца на могілках пасля заканчэння гэтага тэрміну, ён павінен будзе даплаціць кошт пахавання.

У сталіцы існуюць некалькі неафіцыйных могілак для сабак і катоў — у мікрараёнах Уручча-3 і Малінаўцы.

**БелаПАН**



**Падобныя могілкі нярэдка ўтвараюцца стыхійна, як у Бабруйску.**

## Памёр матрос Гамаюн з «Дзяржаўнай граніцы»



Народнаму арытысту **Аляксандру Дзянісаву** было 67 гадоў.

Дзянісаў нарадзіўся ў 1944 у Самарскай вобласці. Аднак ад 1968 яго домам з'яўляўся Мінск, а месцам працы Купалаўскі тэатр.

Пікам іграводй кар'еры Дзянісава была роля матроса Івана Гамаюна ў савецкім баевіку «Дзяржаўная граніца». У гэтага персанажа была закаханая ладная частка аўдыторыі.

Потым была эміграцыя ў ЗША, каб выратаваць жыццё хворай дачцэ Дашы. Артыст паехаў з дачкой адзін, жонка засталася ў Мінску. Першыя месяцы ў ЗША Дзянісаў жыў дома ў легендарнага хакеіста Вячаслава Фяцісава. Дапамагалі гімнастка Вольга Корбут, драматург Аляксей Дудараў.

Жонкай Дзянісава была таксама народная артыстка Беларусі Вольга Клебановіч. Прах Дзянісава прывезлі ў Беларусь.

**Лявон Максюта**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Дразды праўлення

Чытаю размову з адной шматпішучай і звышпапулярнай у маскоўскіх ліберальных колах журналісткай. Разважаючы аб тым, як Расія пагражае Еўропе, Украіне і Беларусі сваёй энергетычнай зброяй, яна раптам заўважае: «...хаця Беларусі не вельмі шкада...»

Еўропу шкада, Украіну шкада, а Беларусь — не вельмі...

Дурная справа — чакаць ад расійскіх лібералаў шчырага спачування незалежніцкім пакутам Беларусі ды шкадавання аб імперскіх адносінах да яе крамлёўскіх уладароў. Яшчэ дурнейшая — вінаваціць іх у гэтым ды намагацца паразумення. А ўсё ж прыкра, крыўдна — чаму не шкада?..

«...Ведаеце што? — Саша нахіліўся да майго вуха і гарача зашаптаў: — Калгас расійцам прадалі, гавораць, за дваццаць мільёнаў... Пачалося...»

Саша — мой добры знаёмы з Камароўскага рынку. Калгас, дзе шафёрыў, кінуў яшчэ гадоў з дзесяць таму, завёў невялічкі статак кароў, разам з жонкай пачаў вырабляць уласны сялянскі прадукт і два разы на тыдзень вазіць на Камароўку. Я быў у тым калгасе — руіны... Чаму ж не прадаць? Хоць расійцам, хоць кітайцам, хоць якому іншаму меху з грашыма...

Але Саша аж змяніўся ў твары: «Вы што, яны ж адбяруць у мяне пашу ці такія за яе грошы заломяць... Дзе кароў пасвіць буду?! А вы думаеце, Камароўку пакінуць? Паадчыняюць тут казіно з бардэлямі, панабудуюць гатэляў... Дзе гандляваць буду?! Вось паглядзіце, распрадасць краіну, ці ж толькі Дразды застануцца... Народ? А што народ? Народу да лямпачкі...» — «Вам жа вось не да лямпачкі...» — «Дык то мне. А народу... Пойдзем, запытаемся ў народа», — і Саша, падхапіўшы мяне пад руку, павёў праз мітуслівы натоўп...

### Дурная справа — думаць, калі трэба рабіць »

«Народ» у бялюткім фартуху паверх спраўнай дублёнкі і ў гэткіх жа бялюткіх нарукаўніках узвышаўся над пірамідамі шклянак з мёдам і выглядаў вельмі здаровым, кроў з малаком. Я ўспомніў, як жонка вучыла мяне выбіраць мёд. Глядзі не на мёд, гаварыла яна, а на прадаўца. Калі кроў з малаком, дык і мёд будзе сапраўдны, без цукру...

«Слухай, — незаўважна падміргнуў мне Саша, — вось ты гаварыў, што табе ўсё роўна, пад кім жыць: ці то пад Расіяй, ці то пад Польшчай...» — «Пад Польшчай не гаварыў», — адгукнуўся «народ», кінуўшы ў мой бок насцярожаны позірк. «Гаварыў, гаварыў, — няўмольна настойваў Саша. — А краіны не шкада?» — «Якой краіны?» — не зразумеў «народ». «Тваёй, роднай тваёй краіны!» — пайшоў Саша белымі з чырвонню плямамі. «А чаго яе шкадаваць? Жылі ж пад Расіяй, і няблага, лепш за расійцаў. А зараз у асноўным расійцы мёд у мяне купляюць... Багатыя...» — «Ну а калі рэферэндум правесці, — улез я ў размову, — пад Расію пайсці ці самім гаспадарыць, як адкажыце?» — «Трэба падумаць», — буркнуў «народ»...

Дурная справа — думаць, калі трэба рабіць.

А што? Што рабіць? Можа, тое, што зрабіў на маіх вачах у нейкі брэжнеўскі год знакаміты старшыня знакамітага калгаса «Светлы шлях» Уладзімір Калачык?

«Лазню, гарэлку, абед і бабу!» — уваліўся да Калачыка заезджы чын з маскоўскай цэкоўскай газеты... Увечары Калачык выцягнуў непрытомнага «госця» з-пад ложка, дзе той спагадліва паскульваў, пагрузіў у «газік» і павольнай хуткасцю адправіў светлым шляхам у Маскву...

А мы ўсё думаем, думаем... Усё разважаем ды ўзважваем, што будзем мець, калі так, а што, калі гэтак...

Толькі што можна мець, згубіўшы краіну?!

У Калачыка для пачуцця чалавечай годнасці быў галоўны падмурак — напрацаваная ўласным гарбом незалежнасць, падмацаваная, што ні гавары пра калгас, падтрымкай людзей...

А куды падзеўся падмурак у сённяшняга «народа»? Чаму яму «ўсё роўна» і «не шкада»?

Ці не таму, што аднойчы паставіў сябе ў залежнасць ад «галоўнадумаючага», а той, услвіўшы «чарку і шкварку», прывёў яго да залежнасці ад расійцаў, кітайцаў, катарцаў і гэтак далей?.. «Багатыя...»

Не, не ў тым усё ж справа, як купляюць яны сёння нашыя пашы, нашу «кроў з малаком»... А ў тым справа, як мы іх прадаём.

Не, «мы» — гэта не пра нас. Ён...

Дзеля нас, думаеце? Не, дзеля захавання ўласнай улады.

Але ці разумее ўладар, што застанецца ў рэшце рэшт сам-насам са сваімі зняслаўленымі ў свеце Драздамі, са сваёй тамтэйшай прэзідэнцыяй?

Зрэшты, заўсёды, ад самага пачатку свайго ўладарання ён блытаў краіну з Драздамі...

*kamerton_41@mail.ru*

# Вандалы: на Прыпяці высякаюць векавыя дубы

Людзі ледзь не плачуць: **начальства загадала**.

«Я вам тлумачу: я супрацоўляюся гэтаму, і да гэтай пары супрацоўляюся. Яны стаялі там вякамі! — эмацыйна расказвае ляснічы «Ляскавічаў» Уладзімір Ракавец, амаль крычыць. — Але ёсць загад губернатара вобласці Дворніка і распараджэнне старшыні Жыткавіцкага райвыканкама».

«Ляскавічы» — не простая гаспадарка. Гэта «Эксперыментальная лесапаляўнічая гаспадарка Дзяржаўнай пры-родаахоўнай установы «Нацыянальны парк «Прыпяцкі». І, як і ўсе нацыянальныя паркі, яна належыць Кіраўніцтву справаў прэзідэнта.

Больш за тое, каля Ляскавіч знаходзіцца адна з рэзідэнцый Аляксандра Лукашэнкі. Пра такія мясціны прынята казаць: «на асаблівым кантролі».

«Ляскавічы» вырабляюць многа драўніны. Самая дарагая — гэта дубовы паркет і плінтус. Экспартны тавар, адным словам.

Аднак дубы валяць не дзеля драўніны. Ці, прынамсі, не толькі дзеля драўніны.

### Унікальнае месца

Адкрытая прыпяцкая абалона ў ваколіцах вёскі Боркі з раскіданымі на прасторы дубамі-волатамі была прыкладам гарманічнага спалучэння сельскагаспадарчага ландшафту і прыроды. Такога больш няма нідзе: абшар паплавоў, а на ім, сям-там, дрэвы-волаты. У падарожнікаў перахоплівала дух — від на пойму адкрываецца з трасы з Мінска на Тураў. Гэта сапраўды было адно з найхарашэйшых месцаў у краіне.

Гэтым месцам ганарыўся вядомы пінскі эколаг Аляксей Дуброўскі, які прыклаў шмат намаганняў дзеля захавання дубоў падчас меліярацыі поймы. Летась Аляксей пайшоў з жыцця, і па нейкай злой іроніі, амаль адразу былі знішчаныя і ягоныя дубы.

Тут высеклі больш за пятнаццаць 150—200-гадовых дрэваў, і працы па высечцы працягваюцца.

Меркантылізм камерсанцікаў? Мясцовае самавольства? Аказалася, і ні першае, і ні другое.

### «Бог іх рассудзіць»

Загад на высечку ідзе ад старшыні Гомельскага аблвыканкама Уладзіміра Дворніка. На гэтай падставе старшыня Жыткавіцкага райвыканкама Мікалай Какора выпісаў адпаведнае распараджэнне. А з бензапіламі працавалі рабочыя КСУП «Коленскае».

«Дубы стаялі па 200 гадоў. А што яны паднялі 10 сотак зямлі з тых дубоў — Бог іх рассудзіць, сцяг ім у рукі, — не перабірае ў выразах ляснічы «Ляскавічаў». — І гэта не толькі ў нас, гэта па ўсёй вобласці Гомельскай такая бяда здарылася. Ім загад губернатара — вось і ўсё. У нас губернатар устанаўлівае свае законы».

Аказваецца, такім чынам павялічваюць плошчу сельгасугоддзяў.

«Высеклі не толькі асобныя дрэвы, а полеахоўныя палосы, — кажа Ракавец. — У Калінкавіцкім раёне там тысячы гектараў пустуе зямлі, асушаных выдатных тарфянікаў. Яны шукаюць пасяўныя — знайшлі 10 гектараў у раёне і затрацілі мільярды грошай».

### «Слова скажы — заўтра будзеш без працы»

Часта ў нас можна пачуць: «народ дэградаваў, народ азвярэў». Ды не, народ акурат усё добра разумее, сказалі мы адзін другому, калі рыхтавалі гэты матэрыял. Людзі ў Ляскавічах, ад простага бухгалтара да простага пенсіянера, паўтаралі нам слова ў слова: «Вы ж зразумейце — мы да рубкі ні пры чым!». Простыя людзі адкрыта кажуць, што высякаць такія дрэвы — грэх. Але што могуць зрабіць простыя людзі? «Слова скажы — заўтра будзеш без працы», — апраўдваюцца.


PTUSHKI.ORG

## «Людзі разбалаваныя, тэлефануюць на «гарачую лінію» »

А што тыя, якія па сваёй пасадзе павінны сачыць за такімі справамі? Алег Баранаў, супрацоўнік Жыткавіцкай інспекцыі па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, пацвердзіў, што дубы высеклі на падставе загада Дворніка. Дакументальна ўсё па законе, кажа ён. Інспекцыя тут ні пры чым. Так званы «білет» на вырубку кубаметраў сарака драўніны выпісаў ляснічы нацпарку. Сам Баранаў такое рашэнне не ўхваляе, і сваю пазіцыю ўжо выказаў Міністэрству. Але дубоў ужо не вернеш.

### «Хочацца ў Амерыку»

А вось Аляксандр Наўныка, намеснік старшыні Жыткавіцкага райвыканкама, рашэнне ўпэўнена абараняе: «Дубы валяць не проста так. Самавольнага нічога няма».

З яго словаў, пад вырубку траплялі толькі «аварыйныя» дубы, якія перашкаджалі працы сельгастэхнікі на палях. «А тое, што дуб аварыйны, напалову ўпаў, на полі стаіць — гэта нікога не хвалюе», кажа Наўныка.

«Пагэтаму што жыхары вам звоняць... Знаеце, аднаму хочацца ў Амерыку паехаць, другому — у Францыю. Але ён жыве ў Беларусі», — кажа Наўныка.

«Людзі разбалаваныя, — кажа, — тэлефануюць на «гарачую лінію» [Мінаховы прыроды — НН], а самі прапанаваць нічога не могуць».

### Паўтарэнне слюнькоўшчыны

Апошняя буйная кампанія павелічэння плошчы сельгасугоддзяў праводзілася за Слюнькова, перад развалам СССР. Тады таксама карчавалі кусты ў лагчынах, секлі гаёчкі. Усё гэта была тыповая кампанейшчына часоў застою: нізіны на палях таму і зараслі, што туды ўсё адно збіраецца вада, і з часам яны зараслі наноў. Але нават тады на прыпяцкія дубы рука не паднялася.

У свой час старанні Слюнькова Масква ацаніла. Яго забралі на павышэнне ў саюзную сталіцу.

Цяпер усё паўтараецца: асвойваюцца грошы, выдзяляецца салярка. Так чыноўнікі інтэрпрэтавалі словы кіраўніка дзяржавы: «ніводзін кавалак зямлі не павінен пуставаць». Асаблівая ўвага ў Гомельскай вобласці надаецца выкарчоўцы лесапалосаў: «Тэхніку нагналі з усёй вобласці. Па аўтатрасе Гомель-Кобрын працавала ўся меліяратыўная тэхніка», — расказвае Ракавец.

### Не дзеці, то хоць унукі

Цяпер, калі вандалізм ужо адбыўся, эколагі просяць спыніць хаця б далейшыя высечкі.

«Важна, каб хоць пні захавалі, а каля тых пянькоў пасадзілі маладыя дубкі. Тады можа не нашы дзеці, але хоць унукі пабачаць ізноў той краявід, якога больш нідзе няма», — кажа Віктар Фянчук, дырэктар грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны».

**Аксана Рудовіч, Мікола Бугай**


Дарэчы, пры высечцы не пашкадавалі нават дрэвы, на якіх былі размешчаны адмысловыя дуплянкі для сіваграка — найпрыгажэйшай птушкі Беларусі.

Унікальны ландшафт быў прыязны не толькі для людзей. Тут было адно з апошніх стабільных месцаў гнездавання сіваграка (на фота) у Беларусі. Тут гняздзіўся пугач і іншыя рэдкія віды.

**Анонс**

## Каму перашкаджаюць прыдарожныя лесапалосы?

Ужо некалькі гадоў працягваецца вынішчэнне прыдарожных лесапалосаў. Першапачаткова гэтая з'ява мела лакальны характар, пасля стала масавай.

Якая карысць ад лесапалосаў, ведае нават абывацель: яны ахоўваюць дарогу ад бакавога ветру і снежных наносаў, а таксама перашкаджаюць выхлапам трапляць на палі і, адпаведна, ва ўраджай з гэтых палёў...

**Чытайце ў наступным нумары «НН».**

# Дачка «замовіла» бацьку

**Ёй не спадабалася** празмерная бацькоўская ўвага.

Труп мужчыны знайшлі 23 лютага ў лесе каля аўтадарогі Журавінка—Паланевічы ў Дзяржынскім раёне. За спінай у мужчыны на запясцях былі замкнутыя кайданкі. Пры ім не было дакументаў. Таму асобу забітага не змаглі адразу ідэнтыфікаваць.

Як паведаміў начальнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Ягор Сіняк, мужчыну вылічылі па адбітках пальцаў праз расійскіх калег — па беларускіх базах ён не праходзіў. Ім аказаўся 40-гадовы ўраджэнец Ерэвана (Арменія). Ён меў расійскую рэгістрацыю — у Разані. Але яго імя да заканчэння следства не называецца.

У забітага мужчыны на целе было мноства татуіровак. Калі звярнуцца да іх тлумачэння, то вынікае, што пад Дзяржынскам знайшлі труп так званага «злодзея ў законе». Але намеснік начальніка УСК Мінскай вобласці Сяргей Буткоўскі адзначыў, што ён не валодае інфармацыяй пра прыналежнасць забітага да вярхушкі нейкай крымінальнай групоўкі. А татуіроўкі не заўсёды могуць адпавядаць прыхаванаму сэнсу. Але вядома, што мужчына быў раней судзімы за забойства. Дзесьці паўгода таму, як вызваліўся, ён прыехаў у Беларусь, дзе ў яго жыла сям'я.

Пасля забойства былі затрыманыя тры чалавекі: гэта мінчанка 1991 г. н., якая знаходзіцца ў адпачынку па догляду за дзіцем, мінчук 1990 г. н., раней судзімы за хуліганства і махлярства, і жыхар пасёлка Гатава (Мінскі раён) 1991 г. н. Ім прад'яўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 139 КК— забойства, здзейсненае групай асобаў.

Па словах Сяргея Буткоўскага, затрыманая дзяўчына з'яўлялася дачкой забітага. Мужчына хацеў вярнуцца ў сям'ю, але дачка не збіралася мець з ім кантакты. Яна папрасіла двух знаёмых разабрацца з бацькам. У выніку мужчыну збілі і задушылі. Для ўсіх трох выбрана мера стрымання — знаходжанне пад вартай. Яны ўжо далі прызнальныя паказанні.

За забойства беларускім заканадаўствам прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на тэрмін ад 8 да 25 гадоў, альбо пажыццёвае зняволенне, альбо смяротнае пакаранне.

**Сяргей Макарэвіч**

# Серыя страшных здарэнняў у метро

З пачатку года здарылася **пяць інцыдэнтаў**.

У мінскай падземцы пачасціліся выпадкі падзення пасажыраў на рэйкі. Усяго сёлета зафіксавана пяць падобных інцыдэнтаў, тры з якіх здарыліся ў першую дэкаду сакавіка.

Восень 2011 для супрацоўнікаў метро таксама была няпростай. На рэйках падземкі загінулі два чалавекі (у тым ліку 16-гадовая дзяўчына), адзін чалавек быў траўмаваны. У пачатку снежня ў Мінгарвыканкаме прайшла нарада з удзелам кіраўніцтва «Мінсктранса». На ёй гаварылася пра неабходнасць выключыць магчымасць падзення пасажыраў на рэйкі незалежна ад прычын здарэння. Пры гэтым вялося пра вывучэнне замежнага вопыту.

Улічваючы, што на наяўных станцыях тэхнічна складана ўсталяваць спецыяльныя агароджы, было прапанавана абсталяваць імі будучыя станцыі. Пачаць вырашылі са станцыі «Малінаўка», запуск якой запланаваны на канец 2013. Партнёрам беларусаў у гэтым праекце, магчыма, выступіць адна з японскіх фірмаў.



**Супольнымі намаганнямі пасажыры і супрацоўнікі метро станцыі 10 студзеня 2012 выратавалі дзяўчыну, якая скочыла на рэйкі.**

**Замежны досвед**

Найбольш блізкае па сваіх характарыстыках да мінскай падземкі — варшаўскае метро. Тут на станцыях таксама ёсць адмысловыя лініі каля краю платформы. Яны пафарбаваныя ў жоўты колер і маюць бугры. Падобнае афармленне ліній можна пабачыць і ў Мінску, напрыклад, на станцыі «Маскоўская». Акрамя таго, у варшаўскім метро пра набліжэнне цягніка і неабходнасць адысці ад краю платформы паведамляюць з адмысловых экранаў.

### Вы ўпалі на рэйкі — што рабіць

Калі цягнік набліжаецца, вам неабходна легчы ў жолаб паміж рэйкамі, пажадана нагамі да цягніка і на жывот, прыцiснуцца да зямлі і нахіліць галаву.

Калі цягніка няма, паклічце на дапамогу, папрасіце паведаміць пра здарэнне супрацоўнікам станцыі. І ідзіце па ходу руху цягніка ў пачатак платформы. Там ёсць паласатая перамычка паміж рэйкамі. Гэта адносна бяспечнае месца. Падавайце сігналы машыністу цягніка ліхтарыкам, экранам тэлефона або флікерам.

Ні ў якім разе не спрабуйце выкараскацца самастойна — наступіўшы на кантактную рэйку, што знаходзіцца з боку платформы, вы можаце загінуць ад удару электрычным токам.

Вы ўбачылі, што нехта ўпаў на рэйкі — клічце на дапамогу супрацоўнікаў станцыі, патлумачце пацярпеламу, што яму рабіць (легчы ў жолаб ці ісці ў пачатак платформы ў залежнасці ад сітуацыі). Не спрабуйце самастойна выцягнуць чалавека на платформу з боку кантактнай рэйкі.

**Сямён Печанко**

**Хроніка падзенняў у метро**

**10 студзеня** маладая дзяўчына скочыла на рэйкі на станцыі «Няміга». Дзякуючы супольным дзеянням пасажыраў і супрацоўнікаў станцыі дзяўчыну выратавалі.

**3 лютага** на ст. «Кастрычніцкая» стала кепска 40-гадовай жанчыне. Яна ўпала на рэйкі. Жанчыне пашчасціла — своечасова адрэагавалі супрацоўнікі метро. Пры падзенні яна ўдарылася каленам.

**3 сакавіка** з-за кепскага самаадчуваня на ст. «Партызанская» на рэйкі ўпала 24-гадовая жыхарка Мазыра. Яна атрымала траўмы.

**6 сакавіка** на ст. «Кунцаўшчына» пад цягнік кінуўся 32-гадовы мужчына і быў моцна траўмаваны. Ён нядаўна пахаваў бацьку, а за дзень да здарэння ў метро ўчыніў пагром на працы.

**10 сакавіка** на ст. «Усход» на рэйкі ўпаў 33-гадовы мужчына. Здарылася гэта па ягонай неасцярожнасці, мужчына сур'ёзна не пацярпеў.



## Сцісла

### Жанчына-кіроўца пасля ДТЗ кінула сяброўку паміраць

Цяжкая аварыя здарылася ў Мінску ў ноч з 8 на 9 сакавіка. У аўтамабілі «Мазда-626», які рухаўся ў кірунку вуліцы Глебкі, ехалі дзве жанчыны. Кіроўца не дала рады кіраванню і ўрэзалася ў ліхтарню. Жанчына-кіроўца ў шокавым стане збегла з месца здарэння. Яе сяброўку ў цяжкім стане даставілі ў бальніцу хуткай дапамогі, пасля таго як машыну заўважылі людзі.

### Загінуў пад коламі цягніка

11 сакавіка на прыпынку «Курасоўшчына» ў Мінску быў знойдзены труп мужчыны, разрэзаны папалам коламі лакаматыва. Ім аказаўся мінчанін 1964 г.н. Па інфармацыі транспартнай міліцыі, мужчына стаяў на платформе занадта блізка да шляхоў і яго зачапіла на рэйкі патокам паветра ад грузавога цягніка.

### На кальцавой дзяўчына праехала тры кіламетры па сустрэчнай

Яна прапусціла патрэбны паварот і вырашыла развярнуцца проста на дарозе. Кіроўцы проста прыходзілі ў жах, унікалі сутыкнення як маглі, але ДТЗ усё роўна не атрымалася пазбегнуць — «Фіят» уляцеў лоб у лоб у «Аўдзі А4». На шчасце, ніхто не пацярпеў.

**КМ**

# Буранаўскія бабулі, а не намазаныя дзявулі

Ад Расіі на «Еўрабачанне» едзе гурт «Брангуртысь песянаёс», які **спявае па-ўдмурцку**.

Можна не сумнявацца: налета эпігоны з БТ таксама звернуць увагу на «Гуду» і Насту Някрасаву.

Фолк-гурт «Буранаўскія бабулі», па-ўдмурцку — «Брангуртысь песянаёс», быў абраны дэлегатам ад Расіі на «Еўрабачанне» па выніках галасавання, якое прайшло ў жывым эфіры на тэлеканале «Расія-1».

Удмурткі павязуць на «Еўрабачанне» гумарную песню. Калектыў, які складаецца з пенсіянерак, выканаў Come on and dance на сумесі ўдмурцкай і англійскай моваў.

Яны абагналі такіх зорак, як дуэт Цімаці і татарскай спявачкі Аіды, а таксама Дзіму Білана, які выступаў

## Гурт узнік пры вясковым Доме культуры

дуэтам з экс-удзельніцай «Тату» Юляй Волкавай. Сярод прэтэндэнтак была і беларуска Паліна Смолава.



«Буранаўскія бабулі» ўзялі 38,5% галасоў. За Білана і Волкаву прагаласавалі 29,25% гледачоў. За Цімаці і Аіду — 25%. Усяго ў фінале ўдзельнічалі 25 выканаўцаў. Беларуска Паліна Смолава заняла 7-е месца (5,79%).

Фінал конкурсу пройдзе ў Баку 15 мая. Беларускі адбор стаў вядомы скандалам. Напачатку было заяўлена, што едзе фаварытка Аляксандра Лукашэнкі Алена Ланская, але пасля крытыкі спецкамісія прызнала фальсіфікацыі, перагледзела вынікі, на конкурс едзе гурт «Лайтсаўнд».

Удмурцкі гурт узнік пры звычайным вясковым Доме культуры. Ідэя перапяваць па-ўдмурцку сусветныя хіты прыйшла ягонай загадчыцы Вользе Туктаровай. Колькі ж можа зрабіць для сваёй культуры і проста для душы кожны чалавек!

**Сяргей Гезгала**




**Удмурты**

невялікі (637 тысяч чалавек) народ, які стараецца захаваць сваю тоеснасць насуперак русіфікацыі. Удмурцкая зорка (у тым ліку на нацыянальным сцягу) — рыхтык наша беларуская традыцыйная «зорка шчасця» (яе выкарыстоўвае на сваім сцягу Хрысціянская дэмакратыя). Этнографы мяркуюць, што традыцыйныя беларускія арнаменты засталіся ад прадаўніх фіна-вугорскіх насельнікаў нашых земляў.

# Удмурцкая культура? «Узы-боры»

Трэці ў гісторыі фільм на ўдмурцкай мове: **поўная гумару і эратызму камедыя**.

Гэты народ жыве перад Уралам. Апынуўшыся ў расейскім атачэнні, удмурты трымаюцца за сваю мову і адметнасць. Не толькі буранаўскія бабулі, але і моладзь.

Гэта была ідэя «ўдмурцкай тусоўкі» — зняць рамантычную камедыю на сваёй мове. З грашыма дапамаглі палякі. Так паўстаў фільм «Узы-боры», што ў перакладзе азначае «Суніца-ягада» — па назве распаўсюджанай народнай песні.

Фільм гэты зняты ў стылістыцы «наіўнага мастацтва». Ігра актораў аматарская, мантаж, касцюмы, грым мінімалісцкі, нават краявіды не падбіраліся асабліва — бюджэт не даваў разагнацца ў пераездах. Але фільм поўны лёгкіх гумару і эратызму.

У стужцы шмат песень: як традыцыйных, так і сучасных. Фільм глядзіцца. Народ і яго культура бачацца ў ім. А палітычны мэсыдж карціны даволі смелы.

Сюжэт такі: Максім з вёсачкі Гондыргурт закахаўся ў маладую спявачку Вікторыю Ядыгараву, песні якой пачуў па радыё. У горадзе на ўдмурцкай вечарыне ён, нарэшце, сустракае ўдмурцкую зорку, але сталічную прыгажуню звозіць кавалер на крутой іншамарцы. Сястра і дзядуля ратуюць Максіма ад дэпрэсіі. З дапамогай Мітрэя, які нядаўна вярнуўся з войска, яны адпраўляюцца да прадзюсара Вікі — удмурцкага хіпстара Роберта. І вось воляй лёсу амбітная зорка і яе піяршчык з'яўляюцца ў вёсцы, дзе іх чакае мноства сюрпрызаў...

Фільм можна паглядзець у добрай якасці ў інтэрнэце.

Невыпадкова, што яго зняў польскі рэжысёр. Паняволеныя калісь нацыі Цэнтральнай Еўропы спагадаюць і дапамагаюць народам Расіі — як і беларусам, зрэшты.

Яшчэ ў 1926 удмурты складалі 52% насельніцтва Удмурціі. У 1939 — ужо толькі 39%. Сталін абраў Прыўралле ў якасці цэнтра абароннай прамысловасці.

На сёння ўдмуртаў ва Удмурціі — 28%. Але ў нацыянальным парламенце дэпутатаў-удмуртаў толькі 11%.

Агромністыя прыродныя багацці рэгіёна патроху вычэрпваюцца. Нафты на сёння здабываецца менш за 10 мільёнаў тон за год, але ўсе радовішчы ўжо на фінальнай стадыі распрацоўкі.

Удмурція — тыповая глыбінная Расія, якой мы не ведаем. Удмурты захоўваюць большасць у вёсках.

Цікава, што моладзь шукае новыя спосабы змагання за нацыянальную ідэнтычнасць: інтэрнэт, новая музыка. Не толькі «Брангуртысь песянаёс», але і юныя артысты разумеюць: выйсце — у пазітыве. І ва ўпартым дзяржанні за сваё.

**СГ**

# Вярнуць паэта

Малады мастак **Алесь Кудрашоў** выставіў партрэт Уладзіміра Някляева.



На выставе маладых мастакоў «Літарт», якая зараз праходзіць у Палацы мастацтва, Алесь Кудрашоў прэзентаваў карціну «Партрэт паэта» — Уладзіміра Някляева. Твар паэта складаецца з літарак, якія злятаюцца, нібы зорачкі, прыцягнутыя магнетызмам вачэй, з размешчаных абапал тэкстаў аўтара: «Вяртанне веры», «Чмель і вандроўнік», «Партрэт карабля».

«Мая біяграфія зусім караценькая, — адзначыў ён у гутарцы з карэспандэнтам «НН». — Я нарадзіўся ў Беразіне, мае бацькі заўважылі, што ў мяне ёсць схільнасць да малявання і аддалі ў каледж імя Ахрэмчыка».

**«НН»: Як з'явілася ідэя стварыць партрэт Някляева?**

**АК:** Някляеў — мой улюбёны паэт і празаік, яго творы мне шмат чаго растлумачылі калісьці, у прыватнасці, раман «Лабух». Калі Някляеў стаў кандыдатам у прэзідэнты, людзі перасталі ўспрымаць яго як творцу, пачалі меркаваць пра ягоную творчасць паводле ягоных палітычных крокаў. Я вырашыў вярнуць Някляеву ягонае творчае аблічча, паказаць, што ў першую чаргу ён — паэт.

**Юрась Ускоў**

## Сціслa

### «Ляпіс Трубяцкой» стаў прызёрам галоўнай расійскай рок-прэміі

Ён атрымаў першы прыз «Чартавага Тузіна. Тор-13» у трох намінацыях: «Гурт года», «Паэзія» (песня «Я веру», аўтар слоў Сяргей Міхалок) і «Відэа» (кліп «Я веру», рэжысёр Аляксей Цярахаў). Цырымонія прайшла ў Маскве 7 сакавіка.

### Пачалася «Кінаварка»

У Беларусі распачаў працу чацвёрты конкурс малабюджэтнага альтэрнатыўнага кіно «КінаVarka». Кожны, хто хоча паспрабаваць сябе ў рэжысуры, можа адправіць заяўку і, калі пашанцуе, папрацаваць над стварэннем уласнага кароткаметражанага фільма. Паводле словаў сябра журы Андрэя Курэйчыка, асабліва цэняцца фільмы, якія б расказвалі пра сучасныя праблемы, а не пра аўтарскае самакапанне.

### «Рок-Каранацыя» вернецца ў Маладзечна?

Падвядзенне музычных вынікаў года, «Рок-Каранацыя», сёлета можа прайсці ізноў у Палацы культуры Маладзечна. Папярэдняя дата правядзення — 31 сакавіка. Сёлета будуць уручаць прызы ў 9 намінацыях. У склад журы ўваходзяць музыкі, журналісты і прадзюсары.

### Лаўрэатам «Глінянага Вялеса-2011» стаў Аляксандр Лукашук

Узнагародай адзначана яго кніга «След матылька. Освальд у Мінску». З дванаццаці экспертаў, якія галасавалі па шорт-лісце літаратурнай прэміі, пяць экспертаў аддалі свае галасы за гэтую кнігу. «Гліняны Вялес» — прэмія, якую ўручае незалежнае Таварыства вольных літаратараў.

**СМ**

# Толькі ў цярновы куст не кідайце!

Пра судовыя справы Зафеі Сульяновай і Сяргея Каваленкі піша **Наталка Бабіна**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сучасных «ведзьмакоў» у возера не кідаюць, на вогнішчы не паляць**

Калі чытала пра судовы працэс над Сяргеем Каваленкам, успомніла пра іншы судовы працэс, які таксама праходзіў у Віцебскай, сучаснай мовай кажучы, вобласці. У вёсцы Магуны Пастаўскага раёна. Судзілі ведзьмакоў — Зафею Сульянову, яе сына Гасюля і суседа Тумэля. Чатырыста гадоў таму справа адбывалася, у 1615 годзе.

У маі таго года здарыўся ў вёсцы Магуны паморак — падохла многа быдла. Войт Урбан западозрыў, што вінаватыя ў гэтым чараўнікі, а менавіта Зафея Юргелёва Сульянова і сын яе Гасюль. Староста выклікаў вознага (следчага, нашай мовай) Начкоўскага з Браслава. А той, прыехаўшы, агледзеўшыся і зразумеўшы, што справа будзе няпростай, у той жа дзень выклікаў у Магуны «людзей зацных» (то бок паважаных): дрысвяцкага старасту, дзісенскага падстарасту, браслаўскага ўрадніка, навакольных паноў і «іншых нямала людзей добрых», каб дапамаглі ўчыніць справядлівасць...

Сабралася вёска, прывялі «чараўнікоў». Бедакі-абвінавачаная спачатку ўсё адмаўлялі, а каб адвесці ад сябе падазрэнні, нагадалі: а вось у нашага суседа, Тумэля Паўлавіча Дарадундэнаса, род здаўна чараўніцтвам займаўся і трыццаць ягоных родзічаў пакараныя за чараўніцтва. Пачалася сварка. Тумэль гэты бедны Паўлавіч з натоўпу спрабаваў бараніцца, але безвынікова.

Вяскоўцы вырашылі ўсіх траіх падазраваных у чараўніцтве праверыць дасканалым спосабам, які ў той час часта практыкаваўся: кінуць звязанымі ў возера. Калі патонуць — чэсныя людзі, калі не — звязаныя, значыць, з д'яблам. Сказана — зроблена: вяскоўцы сабралі чаўны, выплылі на сярэдзіну возера і «на вадзе ўсіх траіх (падсудных) павязаўшы, па адным пушчалі (у ваду) па два разы». Тыя «тануць не хацелі», і такім чынам вяскоўцы даведаліся, што ўсе трое вінныя. «Годныя спалення на агні, не мілаваць ніводнага!» — закрычалі вяскоўцы. Так пісаў следчы Начкоўскі.

Але, пэўна, знайшліся ўсё ж людзі, якія сумняваліся ў правільнасці выраку. І было вырашана яшчэ раз праверыць. Але цяпер ужо не так «чараўнікоў», як метад іх выяўлення. Вяскоўцы выбралі сярод сябе чалавека, сумленнасць якога не выклікала пытанняў, — некага Януша Пашкена. Яго звязалі, як падсудных, кінулі ў возера, і той адразу ж пайшоў на дно. Прычым, як піша возны Начкоўскі, «быў доўга ў вадзе на дне, аж ледзь уратавалі». Пасля такога красамоўнага доказу ўсе ўпэўніліся, што тыя трое сапраўды вінаватыя ў чарадзействе. Тут жа выбралі чалавека, якога паслалі па «містра ката».

Абвінавачаных пасадзілі ў астрог. Што там у тым астрозе было, Начкоўскі не піша, толькі піша, што Зафея пасля адседкі дабравольна прызналася, што труціла суседскае быдла і пасылала труціць быдла на дальняе пасавіска сына Гасюля, а чары для гэтага ў выглядзе канаплянага семені атрымала ад суседа Тумэля...

А сын Гасюль не стаў чакаць, што будзе далей, і збег з астрога. Толькі праз два дні яго злавілі, калі спаў на полі, і зноў вярнулі «на ланцуг».

Тут прыбыў кат. І вяскоўцы аднагалосна — не забывае падкрэсліваць следчы Начкоўскі — «голасам вялікім закрычалі», што трэба паганых чараўнікоў спаліць.

На вясковым пляцы запалілі вогнішча. І спалілі ўсіх «чараўнікоў» па чарзе. Спачатку — Зафею. Потым прывязалі да драбіны рукамі і нагамі Гасюля, і ён, пакуль не ахапіў яго агонь, усё крычаў, што той Тумэль — вялікі чараўнік, а яны з маткай з-за яго невінаватыя гінуць. Полымя агарнула хлопца, а ён усё крычаў пра сваю з маткай невінаватасць і «Тумэлія таго так і не апраўдаў».

Потым гэтак жа прывязалі да драбінаў трэцяга «чарадзея». «А той Тумэль, — заўважае возны, — нікога не вінаваціў і не апраўдваў, усё толькі маўчаў»...

І цяпер стаіць тая вёска Магуны. У 2001 там было 103 двары, 272 жыхары. У Магунах знаходзіцца цэнтр сельсавета, калгас імя Кірава, базавая школа, клуб, бібліятэка, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі, крама.

І жывуць у вёсцы людзі з прозвішчамі Урбанойць (утвораным ад імені Урбан, магчыма, таго самага войта), Тумуль і Тумель, Гасюль...

І стаіць непадалёк горад Віцебск, і жывуць там Каваленкі, Жукі, Лутавы... І судовыя працэсы сталі не менш цікавымі. Чытаючы пра працэс Каваленкі, падумала: як прагрэс, так і рэгрэс за гэтыя 400 гадоў, як кажуць, навідавоку. Прагрэс: сучасных «ведзьмакоў» у возера не кідаюць, на вогнішчы не паляць. Рэгрэс: не народ, вёска, судзяць, а судзіць адзін чалавек, наняты не народам, а пэўнай уладнай групоўкай. Ну і вынік: тады суддзі былі невукамі, сёння яны выконваюць устаноўкі выканаўчай улады.

Дык чым магу я дапамагчы несправядліва асуджанаму Сяргею Каваленку? Вывешу наш сцяг, які і я паважаю і шаную. Мне, канечне, ужо 45 гадоў, спрыт не той, але калі магла залезці на воданапорную вежу, каб зняць дурнога ката, то змагу залезці, і каб сцяг вывесіць. Толькі, калі ласка, дарагія возныя і іншыя зацныя людзі, не кідайце мяне потым у цярновыя кусты — вы ж памятаеце з дзяцінства, цярновыя кусты — родны дом для трусікаў, ведзьмакоў, а таксама ўсіх былых і будучых партызанаў.



**Наталка Бабіна**

Пісьменніца. Аўтар рамана «Рыбін горад». Жыве ў Ждановічах.

# Беларуская глыбіня. **Ружанец разбуранай велічы**

Піша **Павел Севярынец**.

*Няўжо веліч Ягоная не палохае вас, і страх Ягоны не нападае на вас?..*
*Ёў, 13:11*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Калі з Купліна па слонімскай дарозе едзеш на Мінск, праз нейкі час пасля панылага балоцістага Палесся зямля пачынае дыхаць узвышшамі. Далягляд калышацца, і ў ружаватай смузе паўстае невялікі трохтысячны пасёлак, па-над якім на ўзгор'і з'яўляюцца руіны знакамітага палаца Сапегаў.

Ружаны.

У гэтым палацы, збудаваным на мяжы залатога XVI і срэбнага XVII стагоддзяў ВКЛ, Сапегі прымалі каралёў і вялікіх князёў Уладзіслава IV і Станіслава Панятоўскага, а Канцлер Львінае Сэрца парадкаваў Літоўскую метрыку. Падвалы-лабірынты тут такія глыбокія, што ад недахопу кіслароду затухаюць свечы.

Пра Палац расказваюць, што ў ім захоўваюцца нечуваныя скарбы, што падземныя хады (ды такой вышыні, каб вершнік праехаў!) ідуць у Косава, Бярозу ды Слонім, і што аднойчы ў 1970-х позна ўвечары чорная «Волга» з літоўскімі нумарамі пад'ехала да сцяны замка, а зранку там зеўрала вялізная ніша і ў грудку бітай цэглы тутэйшыя падабралі пару залатых манетаў.

З гаспадарак Ружанскага краю, якія атаварваюцца ў Купліне, прыязджаюць мужыкі-ліцвіны — жывой беларускай гутаркі, святлейшыя, у адрозненне ад цёмных палешукоў, ды рослыя, ды дужыя, і ў мазгах шторазу шыецца падазрэнне: а ці не сапегаў двор і сапегава прыватная гвардыя, што стагоддзямі таўклася ў Ружанах і ваколіцах, падмацавала тут генафонд грэнадзёрамі?

Герб Ружанаў атачаны вянком ружаў, ахвяраваных Дзеве Марыі. Ружаны — гэта ад ружанца, асаблівага способу малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца, нібы на пялёстках ружы, і разгортваецца ярусамі па пяць малітваў у кожным. Ружанец адгаворваюць на пацерках (ад Pater noster — «Ойча наш», пачатковай малітвы), калі метадычна, злучво за злучвом, адзначаецца кожная кароткая частка.

Руіны Палаца, контур разбураных сценаў на сотні метраў — агромністы ружанец, пакладзены на ўзгор'і. Глыбы з вачніцамі высаджаных вокнаў, рэшткі муроў, асобныя аркі, бы каласальныя пацеры, — ідзеш, перабіраеш вачыма, кранаеш пыл з камення і адлічваеш малітвы за аднаўленне велічы Вялікай Літвы.

Молімся за беларускі народ, які сам забыўся, як маліцца, і ходзіць па развалінах, каб адкаркаваць «чарніла», абвесці былыя ўладанні пустымі вачыма, задраць глотку ўгару, туды, адкуль хлыне павольная смерць, і хрыпла прачысціць горла: «Ну, будзем....»

Молімся, каб у сённяшняй дробненькай Беларусі паўставалі волаты, падобныя Сапегам: Ільву, абаронцу незалежнасці, аўтару статута; Казіміру Леону, што атрымаў адукацыю ў чатырох еўрапейскіх універсітэтах, валодаў васьмю мовамі, заснаваў кляштар картузаў у Бярозе ды катэдру права ў Вільні; кардыналу Адаму Стэфану, што вывеў у свет Караля Вайтылу, будучага Папу Яна Паўла II...

Молімся за выбарны Богам народ Ізраіля, бо якраз з мястэчка Ружаны — адзін з кіраўнікоў сіяніцкага руху Іэхіэль Пінэс, пісьменнік і паэт Аарон Любашыцкі, кампазітар Генры Русота, восьмы і дзясяты прэм'ер-міністр Ізраіля Іцхак Шамір... і сотня насельнікаў ружанскага гета, вывезеных нацыстамі ў Трэблінку.

Молімся, каб ружанцы, сучасныя жывыя ружанцы, памяталі: усё праміне: і слава, і багацце, і веліч, але застаюцца, запісаныя ў вечнасці, справы чалавечага сэрца.

Заходзіш у агромністы пралом, бачыш небакрай, надламаны руінамі, узгадваеш, што Палац быў пабудаваны ў форме крыжа, раптам разумееш, які ты ў свеце маленькі-маленькі — і вусны самі пачынаюць шаптаць: Ойча наш!..

Веліч чалавечая заключаецца ў здольнасці прызнаць уласную нішчымнасць перад усёмагутнасцю Божай — бо менавіта праз нашую немач выяўляецца Моц Таго, Хто стварыў і гэтую краіну, і гэтую мову, і нас саміх.

Палац паціху аднаўляюць, пачынаючы з брамы. Марудна. Цяжка.

Але настойлівыя, доўгія, шматгадовыя малітвы, якія ўваскрашаюць паўмёртвыя нацыі, патрабуюць надзвычайнай руплівасці і цярпення.

Час збіраць камяні. Час аднаўляць — глыба за глыбай, пацерка за пацеркай, замак за замкам, храм за храмам — увесь грандыёзны Ружанец Беларусі — цэрквы, касцёлы, зборы, палацы, калісьці, у эпоху беларускай магутнасці, збудаваныя тымі, хто любіў Беларусь і верыў у Ісуса Хрыста.

*Куплін*

**Глыба за глыбай, пацерка за пацеркай, замак за замкам, храм за храмам**

Уладзімір Лобач.
Апавяданне.

# Свяціцкі кот



Зладзеяваты, як кажуць рыбакі, кот жыве ў вёсцы Свяціца, а вёска стаіць на беразе прыгожага і рыбнага Янова азяра.

Апошняя акалічнасць і прадвызначыла нібыта злодзейскія схільнасці свяціцкага ката. Узімку, калі ўжо становіцца трывалы лёд і затоку ля вёскі апаноўваюць заезджыя рыбакі, кот выбіраецца на свой зладзейскі промысел...

У гады свайго наіўнага юнацтва кот спрабаваў наладзіць з рыбакамі гарманічныя ўзаемаадносіны. Ён падыходзіў да аматараў зімовага лову, сядаў побач і пачынаў жаласна мяўкаць, просячы пачастунку.

Але бяда ката заключалася ў тым, што каля Свяціцы ловіцца пераважна падлешчык, а які нармальны рыбак ахвяруе добрай рыбінай дзеля прыблуднага ката? Кот вельмі часта заставаўся з нічым, і гэты факт быў тым больш крыўдны, што ў галодных каціных вачах трапяталася і біла хвастамі рэальная рыба, абы-як раскінутая каля адной ці другой лункі.

Але час мінаў, і на змену сляпой кацінай крыўдзе прыйшоў узважаны і халодны аналіз наяўнай несправядлівай сітуацыі.

Я тутэйшы кот. Нарадзіўся і вырас на беразе азяра ў сваёй роднай вёсцы. І мае дзяды, і дзяды маіх дзядоў нарадзіліся і жылі тут. Ніхто не здрадзіў сваёй роднай старонцы, не выракся матчынага мяўкання на карысць гарадскіх кватэраў і халяўнай пайкі за лаяльнасць да гэтага каланізатарскага «кыс-кыс-кыс». Я тутэйшы і гонар маю! А хто яны, гэтыя прыхадні з вудамі, што бессаромна абкрадаюць маё азяро?

## Хто яны, гэтыя прыхадні з вудамі, што абкрадаюць маё азяро? »

Ніякай літасці чужынцам — толькі вайна! — вось так пастанавіў Свяціцкі кот.

Каб развеяць апошнія сумненні, кот схадзіў да споведзі у тутэйшы каціны касцёл і каціны святар багаславіў яго на святую барацьбу. Але пры гэтым, як і кожны святар, нагадаў пра царкоўную дзесяціну...

Зразумела, што фармат бязлітаснай барацьбы, як гэта і прадпісвае тутэйшая традыцыя, быў абраны партызанскі.

Добры партызан — жывы партызан.

Таму ён ніколі не будзе кідацца на праціўніка, што мае перавагу, лоб у лоб, як гэта пафасна, але абсалютна тупа рабілі кавалерысты Войска Польскага ці Будзёнага проці танкаў Гудэрыяна. Партызан выкарыстоўвае сваё веданне тутэйшага ландшафту і пільнуе звычкі і завядзёнкі акупантаў, каб скарыстацца іх слабіной. Нападае партызан знянацку, каб гэтак жа нечакана знікнуць...

Звычкі і слабасці рыбакоў Свяціцкі кот ведаў, як усіх суседскіх котак — грунтоўна і глыбока.

Ляшчатнік ніколі не свідруе адну лунку. Ляшчатніка заўсёды душыць жаба, і ён круціць дзірак 5—6 у спадзеве, што з кожнай дастане важкіх рыбінаў. Праблема рыбака заключаецца ў тым, што, маючы толькі адну задніцу, ён можа сядзець толькі каля адной лункі, візуальна пільнуючы ўсе астатнія. Другая рыбацкая звычка заключаецца ў тым, што выцягнутая рыбіна, як правіла, кідаецца тутака ж на лёд і не хаваецца за кожным разам у скрынку... І яшчэ вецер. Ужо на ўзроўні набытага рэфлексу рыбак сядае спінаю да яго.

Калі вецер усходні, то Свяціцкі кот прыходзіў менавіта з усходу, калі дзьмуў з поўдня, адтуль жа на мяккіх лапах тупаў і кот... У любым выпадку, адкуль бы ні дзьмуў вецер, кот з'яўляўся за спінай рыбака.

Кот бачыў ворага і ўсе яго лункі, вораг ката, зразумела, не бачыў. Аднак паклёўка на дальняй лунцы змушала падняць задніцу не толькі рыбака, але і ката. У той час як мужык бег, каб падсекчы чарговага падлешчыка, кот бег да яго «базавай» лункі, выбіраў буйнейшага рыбінага экзэмпляра і шпарка хаваўся ў бліжэйшых трыснягах. Ясная справа, акцыя паўтаралася не аднойчы... Здабыча прыкопвалася ў снег, за ёй другая, трэцяя. Вынікі баявой аперацыі кот падводзіў ужо надвячоркам.

Асабліва жорстка Свяціцкі кот распраўляўся з аматарамі выпіць на лёдзе.

Сабраўшыся ў купу і прапусціўшы пляшкі дзветры, рыбакі пераходзяць у віртуальную прастору сваіх колішніх уловаў, памеры якіх не здольныя паказаць нават разведзеныя ўшыркі рукі.

Ацверазенне прыходзіць тады, калі чалавек вяртаецца да сваёй лункі і рашуча не пазнае яе: бля, у мяне тут чатыры падлешчыкі ляжалі! (Кот у трыснягах злавесна рагоча.)

Табе, мой шаноўны сябра, можа падацца, што выхадкі ката — толькі дробныя ўцехі згаладалай жывёлы, але ты тут вельмі памыляешся. Свяціцкі кот — выдатны псіхолаг, ягоны разлік заўсёды праўдзіць у перспектыве.

Яму няма патрэбы перагрызаць горла ворагу, бо гэта зробіць жонка рыбака (яшчэ і мозак вып'е), што сустрэне мужа без рыбы, але з густым перагарам. А яшчэ калі з начоўкай ездзіў, то будзе поўны трыбунал...

Свяціцкі кот — шчыры патрыёт свайго краю і жывое сведчанне таго, што і адзін на лёдзе воін.

Мужыкі, што ловяць ля Свяціцы, хоць і выклінаюць таго ката, абзываюць злодзеем, але ў іх аповедах непрыхавана гучыць павага і захапленне мужнай жывёлінай.

Завочна і мне той кот спадабаўся. Ля Свяціцы я не лаўлю, але на знак сваёй павагі да Свяціцкага ката падыму за яго чарку з рыбіным тлушчам у Дзень абаронцаў Айчыны.

**Уладзімір Лобач**
пісьменнік, этнограф, выкладчык. Жыве ў Полацку.

# Паўлу Вінаградаву

Алесь Кіркевіч.

Героям не спіцца за кратамі,
Мрояць яны свабоду,
Не злічаную каратамі
Ані маткамі дроту.

Сволач на гульбішчы цешыцца,
Мочаць упарта сумленне,
Зоркі ў гарэлцы плешчуцца,
Быццам у глебе насенне…

Героям не спіцца пад зоркаю,
Што чырванню ззяе з-за кратаў,
Дзе пахне мачой, хлоркаю,
Ды сечкай з «Валгаграду».

**Алесь Кіркевіч**
Паэт. Намеснік старшыні Маладога Фронту. Быў асуджаны за ўдзел у Плошчы-2010 на чатыры гады зняволення. Летам 2011 памілаваны. Жыве ў Гродне.

**Дзе варта быць**

# Бахарэвіч прэзентуе ў Мінску кнігу пра Шабаны

22 сакавіка ў Мінску пройдзе прэзентацыя рамана Альгерда Бахарэвіча **«Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення»** з удзелам аўтара.

Імпрэза адбудзецца ў мінскім Інстытуце імя Гётэ (Харужай, 25/3). Пачатак а 19-й. Уваход вольны.

Альгерд Бахарэвіч — пісьменнік (нар. у 1975), жыве ў Гамбургу. Аўтар кніг «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў» (2002), «Натуральная афарбоўка» (2003), «Ніякай літасці Валянціне Г.» (2006), «Праклятыя госці сталіцы» (2008), «Сарока на шыбеніцы» (2009), «Малая Медычная Энцыклапедыя Бахарэвіча» (2011).

Ягоны «Гамбургскі рахунак» на сайце радыё «Свабода» выклікаў жывую дыскусію ў нацыянальных літаратурных колах.

**ЛМ**

# ФУТБОЛ

## Кубак Беларусі

**17 сакавіка** пройдуць першыя гульні 1/4 фінала Кубка Беларусі па футболе. Сустракаюцца: «Ліда» — «Нафтан» (Наваполацк), «Клечаск» (Клецк) — «Нёман» (Гродна), «Брэст» — «Гомель»
**18 сакавіка:** СКВІЧ (Мінск) — «Мінск».

# ГАНДБОЛ

## Кубак кубкаў і Кубак ЕГФ

**17 сакавіка ў спарткомплексе «Вікторыя»** ў Брэсце мясцовы гандбольны клуб БГК імя Мяшкова прыме ў сябе «Арагон» (Сарагоса, Іспанія). Матч адбудзецца ў рамках 1/4 фінала Кубка кубкаў.
На наступны дзень у Мінску «Дынама» ў рамках 1/4 Кубка ЕГФ прыме нямецкі «Гепінген».

# КАНЦЭРТЫ

## Unia

**15 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — Unia.

## Класік-Авангард

**20 сакавіка а 19-й у малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт салістаў «Класік-Авангард».

# ВЫСТАВЫ

## Старыя рэчы

**Да 21 сакавіка ў мастацкай галерэі «Акадэмія» (Сурганава, 14)** працуе выстава «Старыя рэчы» Міхаіла Баразны, Андрэя Васілеўскага і Кацярыны Кенігсберг. Аўтарскія праекты, прадстаўленыя на выставе, нясуць на сабе адбітак цяперашняга часу і страчанага матэрыяльнага свету…

## Маладзёжная-2012

**Да 25 сакавіка ў Палацы мастацтва (Казлова, 3)** працуе мастацкая выстава «Маладзёжная-2012». Не абмежаваная пэўнай тэматыкай выстава дае яе маладым удзельнікам шмат свабоды, пачынаючы з выбару фармату, тэхнікі, кампазіцыйнай прасторы, каларыстычнай, жанравай разнастайнасці…

## Літарт-2012

**Да 25 сакавіка ў Палацы мастацтва працуе** 6-я рэспубліканская мастацкая выстава шрыфта і каліграфіі «Літарт-2012». Сапраўдная каліграфія — гэта нюансы і віртуознасць, на якіх будуецца высокае мастацтва. Каліграфія на сучасным этапе адваёўвае сваю прастору ў агульнай культуры, таму на выставе прадстаўлены шырокі дыяпазон творчых пошукаў у розных тэхніках і накірунках.

## Скарбы Нясвіжа

**Да 27 сакавіка ў галерэі «Панарама»** Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе фотавыстава Віктара Данілава «Скарбы Нясвіжа». У экспазіцыю ўвайшло каля 60 работ Віктара Данілава, прысвечаных палацавапаркаваму комплексу, касцёлу Божага Цела, а таксама помнікам.

## Берлін. Фотаздымкі

**Да 23 сакавіка ў Палацы мастацтва** працуе выстава нямецкага фатографа Герыта Энгеля «Берлін. Фотаздымкі». Упершыню ў Беларусі гледачам прапануюцца 42 фотаздымкі, зробленыя Герытам Энгелем падчас яго працы над аднайменным альбомам, які выйшаў у свет у Германіі ў 2009 годзе. Усе фатаграфіі вытрыманы ў адным стылі, дзе архітэктурныя аб’екты адлюстраваны прадметна, на фоне белага неба, з мінімумам фарбаў і раўнамернай глыбінёй рэзкасці. Храналагічны парадак дазваляе прасачыць архітэктурную гісторыю Берліна ад пачатку XIII ст. (Царква св. Мікалая, 1230 г.) да XXI стагоддзя (Галерэя Хінтэр дэм Гісхаўс, 2008 г., праект Дэвіда Чыперфілда).

## Канскія львы

**16 сакавіка а 19-й у к/з «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** адбудзецца 14-ы паказ лепшых відэаролікаў свету, пераможцаў Міжнароднага Канскага фестывалю рэкламы 2011.

## Свет жамяры

**Да 18 сакавіка ў Доме прыроды (Багдановіча, 9а)** працуе выстава «Свет жамяры», на якой прадстаўлена мноства відаў жамяры з розных мясцін Зямлі: экзатычныя мятлушкі з Афрыкі, Новай Гвінеі і Філіпін, жукі з Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі…

## У свеце фантазій і чарадзейства

**Да 31 сакавіка ў бібліятэцы імя Пушкіна (Гікалы, 4)** працуе выстава аматараў вышывання «У свеце фантазій і чарадзейства». На выставе прадстаўленыя 130 вышываных працаў, выкананых у самых розных тэхніках і відах, — казачныя героі, фантазійныя краявіды, феі, адзінарогі, пегасы, цмокі…

## Валенці Ванькові: «Партрэт Войцаха Пуслоўскага»

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануецца партрэт Вой-цаха Пуслоўскага пэндзля Валенція Ванькові. Гэты твор В.Ваньковіча ўпершыню экспануецца ў Беларусі.

## Слуцкія паясы

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** экспануюцца чатыры слуцкія паясы са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ў Вільні.

# ТЭАТРЫ

## 15 сакавіка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

## 16 сакавіка

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»

## 17 сакавіка

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

## 18 сакавіка

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

## 19 сакавіка

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

## 20 сакавіка

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Оперы і балета** — «Набука»
**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя любві»

## 21 сакавіка

**Лялек** — «Шлях у нябёсы»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

## 22 сакавіка

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)»

## 23 сакавіка

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Оперы і балета** — вечар аднаактных балетаў
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

# КІНО

## Імперская вайна з грузінскімі робатамі

**Жнівень. Восьмага (Август. Восьмого)**
Расія, 2012, каляровы, 120 хв.
**Рэжысёр:** Джанік Файзіеў
**Ролі выконваюць:** Святлана Іванова, Максім Мацвееў, Ягор Бяроеў, Арцём Фадзееў, Уладзімір Удавічэнкаў, Гоша Куцэнка
**Жанр:** Ваенна-камп’ютарная прапагандысцкая меладрама
**Адзнака:** 1,5 (з 10)
Разведзеная Ксенія адпраўляе маленькага сына да бацькі — у Паўднёвую Асецію. Кемлівы хлопчык захапляецца камп’ютарнымі гульнямі. Калі ў Асеціі пачынаецца вайна, матуля дзіцёнка абвяшчае сябе баявым робатам і пад прыкрыццём расійскай арміі праводзіць выратавальную аперацыю.
Карціна Джаніка Файзіева мусіць апраўдаць анексію грузінскай тэрыторыі. Грузінскі танк пераўтвараецца ў камп’ютарнага злыдня, які расстрэльвае старых. Бландзінка ў ружовай кофтачцы носіцца пад агнём, уганяе джып і размаўляе з жывёламі.
Вайскоўцы геraічна пазіруюць, ганарацца аба...нымі порткамі і зухавата прыходзяць на дапамогу. Робаты, самалёты і фальшывы аргазм бландзінкі — прынады, каб паказаць расійскага прэзідэнта (Уладзімір Удавічэнкаў) абсалютна на сваім месцы.

**Андрэй Расінскі**




# Дзень святога Патрыка

**17 сакавіка Ірландыя адзначае** дзень свайго нябеснага апекуна — святога Патрыка. Гэтае свята сёння адзначаецца амаль ва ўсіх краінах свету. Гэтак добра ірландцы яго прапагандуюць. Сімвалам свята з’яўляецца канюшына, а колерам — зялёны. У Мінску наўрад адбудзецца парад, а вось канцэртаў будзе дастаткова.
**Ірландскія фольк-металісты з Cruachan** выступяць у нас упершыню, а падтрымаюць іх ў Re:public украінцы Kroda і беларусы «Стары Ольса». Канцэрт пройдзе 16 сакавіка. Пачатак у 18.30, клуб Re:public (Прытыцкага, 62). Даведкі і замова квіткоў: +375 25 6169179. Кошт квіткоў: 120 000 — 200 000 рублёў.
**17 сакавіка ў Loft café (Броўкі, 22)** граюць Ejrut, Artes Liberales, Ceilidh Ceol, Ulster і «Хорціца». Выступы школ ірландскага стэпа OCHTAR і ірландскага танца Celtic Dragon.
**18 сакавіка ў бары Doodah King (Берсана, 14)** — Patrick’s Party. Возьмуць удзел Devil Dandies (Rock’n’Roll, Rhythm’n’blues), The Conspiraters (Hard rock \ Blues rock \ Psychedelic), Ma mamas better than yours (Rock’n’Roll), Pale Red (Glam rock \ Hard rock).
**Адзначаць Дзень святога Патрыка і ў Стоўбцах.** У горадзе 17 сакавіка будзе кірмаш майстроў Hand Made і канцэрт з удзелам Rokash, Rosy, Fire Soul, ПАЛАТА № 6. Кірмаш будзе працаваць з 13.00 да 18.00. Уваход вольны. Канцэрт распачнецца а 19 гадзіне. Кошт квітка — 15 тыс. рублёў.
**Таксама ў мінскіх гіпермаркетах да 17 сакавіка зніжкі** на ірландскія гатункі піва.


PHOTO.BYMEDIA.NET

# У мінскім дэльфінарыі хлопчык зваліўся да дэльфінаў

Здарэнне адбылося **пасля спектакля**, калі ахвочыя фатаграфаваліся з удзельнікамі шоу.

Інцыдэнт здарыўся ў дэльфінарыі на Прытыцкага. Усё адбывалася за крок ад сцэны, на якой пастаянна фатаграфуюцца малыя. Двухгадовы хлопчык уваліўся ў тэхналагічную адтуліну і праляцеў два метры ўніз. Следам за малым у ваду скокнуў яго бацька. Сур'ёзных траўмаў дзіця не атрымала, але перажыло псіхалагічны шок.

«У гэтым месцы наогул не павінны хадзіць людзі, — адзначыў дырэктар дэльфінарыя. — Там стаіць наш супрацоўнік, які не падпускае наведнікаў да тэхнічнай адтуліны, але ў той момант ён адлучыўся. За промах мы яго пакаралі — звольнілі, таксама пазбыўся пасады чалавек, які адказвае за тэхніку бяспекі. Пасля таго, што адбылося, фатаграфавацца сталі ў іншым месцы — на галоўным памосце, а адтуліна зараз латаюць рабочыя».

Супрацоўнікі дэльфінарыя кожны дзень ездзяць да пацярпелага малога з садавінай. І ўжо паабяцалі ўсёй сям'і бясплатны курс дэльфінатэрапіі. Спецыяльна для гэтага ў Мінск з Масквы прыедзе доктар, які разам з дэльфінамі за 10 сеансаў «супакоіць» сям'ю. Гэта не самае таннае задавальненне. За 15 хвілін плавання з дэльфінамі ў басейне наведнікі мінскага дэльфінарыя выкладваюць па 650 тысяч.

**Звольненыя два супрацоўнікі дэльфінарыя »**

**Паводле «Камсамольскай праўды ў Беларусі»**



## «Слуцкі гасцінец» ці «Каржанеўскага»?

Мінгарвыканкам раіцца, як назваць **новыя станцыі метро**.

Спецыяльная камісія пакуль што абрала наступныя назвы для трэцяй лініі мінскага метро, якія плануецца скончыць да 2030 года:

1. Станцыя на скрыжаванні вул. Кіжаватава і Каржанеўскага — **«Слуцкі Гасцінец»** (ранейшы працоўны варыянт — «Каржанеўскага»);
2. Станцыя на скрыжаванні вул. Кіжаватава і Асіповіцкай — **«Немаршанскі парк»** («Лошыцкая»);
3. Станцыя на тэрыторыі былога аэрапорта «Мінск-1» — **«Аэрадромная»**;
4. Станцыя на скрыжаванні вул. Жукоўскага і Варанянскага — **«Кавальская Слабада»** («Жукоўскага»);
5. Станцыя каля чыгуначнага вакзала — **«Вакзальная»**;
6. Станцыя на скрыжаванні вуліц Цэткін і Нямігі на плошчы Багушэвіча — **«Плошча Францішка Багушэвіча»** («Клары Цэткін»)
7. Станцыя на скрыжаванні другой і трэцяй ліній метро на Юбілейнай плошчы — **«Юбілейная плошча»**.

Як бачна, Мінгарвыканкам прапануе захаваць тапонімы аб'ектаў, якія былі на месцы будаўніцтва метро. Падобны прынцып прымяняўся і падчас будаўніцтва апошніх станцый на першай лініі метро — «Грушаўка», «Міхалова», «Пятроўшчына». Аднак бывалі і іншыя прыклады: калі назву «Ракаўская» з надуманай нагоды замянілі на «Спартыўную».

Другі ўчастак трэцяй лініі метро звяжа цэнтр горада з мікрараёнам Зялёны Луг. Запланаваныя станцыі на праспекце Машэрава, плошчы Бангалор, вуліцах Харужай, Багдановіча, Кальцова і ў Зялёным Лузе. Назвы гэтых станцый пакуль што не выбіраліся.

Свае прапановы можна даслаць факсам на нумар (17) 200-97-81 альбо поштай на адрас: 220030, Мінск, пр. Незалежнасці, 6.

**Ягор Марціновіч**

**Тэхналогіі**

## «Яндэкс» адкрыў новы офіс у Беларусі

Як паведамілі ў прэс-службе «Яндэкса», цяпер у беларускай камандзе працуюць 19 чалавек. Гэта праграмісты і менеджары, якія займаюцца ў асноўным пошукам і картамі. Кіруе офісам Аляксей Сікорскі.

Найбуйнейшы расійскі пошукавы інтэрнэт-партал «Яндэкс» адкрыў партал для Беларусі — yandex.by — у красавіку 2010. Паводле звестак агенцтва Gemius, у сакавіку 2011 аўдыторыя партала склала 1,8 млн. карыстальнікаў — на той момант гэта было 50% усёй аўдыторыі Байнэта.

12 мая 2011 на сэрвісе «Яндэкс. Карты» з'явіліся панарамы Мінска.

У Беларусі размяшчэннем рэкламы на «Яндэксе» займаюцца больш за 30 рэкламных агенцтваў — партнёраў расійскай кампаніі.

У рэкламную сетку «Яндэкса» (РСЯ) уваходзіць больш чым 250 сайтаў у зоне by. У маі 2010 «Яндэкс» адкрыў у Беларусі Цэнтр абслугоўвання партнёраў, праз які беларускія сайты могуць далучыцца да РСЯ і атрымліваць узнагароду ў беларускіх рублях.

**БелаПАН**

**Здароўе**

## Навукоўцы сінтэзавалі малекулу для барацьбы з ракавымі пухлінамі

**Доследы на мышах** завяршыліся паспяхова.

Пра гэта паведамілі даследнікі Універсітэта Барселоны. Пасля ўвядзення ў арганізм паддоследных звяркоў малекулы, названай HS44, навукоўцы назіралі рэзкае скарачэнне фармавання метастазаў у лёгкіх.

Лячэнне, як растлумачылі аўтары даследавання, заснаванае на выкарыстанні ўласцівасцяў аднаго з відаў белых крывяных цельцаў — лімфацытаў iNKT. Яны змагаюцца з пухлінамі за кошт вызвалення цытакінаў, якія актывізуюць імунную рэакцыю. У выніку арганізм сам знішчае заражаныя або злаякасныя клеткі. Для пачатку гэтай барацьбы яны павінныя атрымаць свайго кшталту сігнал, менавіта яго і дае сінтэзаваная малекула, калі трапляе ў арганізм, гэта значыць, яна актывізуе ўнутраныя рэсурсы.

На думку навукоўцаў, атрыманыя вынікі адкрываюць шырокія даляглады ў тэрапеўтычнай медыцыне.

**БелТА**

## Беларусы гатовыя набыць «новы iPad» за $2000

Прытым што ў ЗША планшэты **будуць каштаваць** ад $500.

Фанаты тэлефонаў і планшэтных камп'ютараў Apple радасна паціраюць рукі. Ужо 16 сакавіка ў ЗША з'явіцца ў продажы новы планшэт iPad трэцяга пакалення. Ён не мае ў назве лічбы «3», а называецца проста «новы iPad».

У параўнанні з папярэдняй мадэллю планшэт мае большы экран, палепшаную камеру, якая можа здымаць шырокафарматнае відэа, а таксама электронны дапаможнік з падтрымкай пяці моваў. Акумулятара хапае на 10 гадзін няспынных працы.

Цана на новы iPad у ЗША складае ад $499 да $829. Розніца дасягаецца за кошт рознага аб'ёму ўбудаванага вінчэстара і падтрымкі некаторымі з планшэтаў звышхуткасных сетак чацвёртага пакалення LTE.

У Беларусі прадстаўніцтваў Apple няма, таму афіцыйных продажаў не будзе. Але тыя, хто збіраюцца неўзабаве ў ЗША, прымаюць заяўкі на дастаўку планшэтаў. Прычым ахвотнікі атрымаць новыя iPad гатовыя істотна пераплачваць.

У першыя дні продажаў цана з дастаўкай дасягне $2000. Гэта значыцца, што «навар» перакупшчыка складзе каля $1000. Тым ж, хто абяцаюць прывезці планшэт праз некалькі тыдняў, просяць за свае паслугі $200—300.

**ЯМ**

## Coca-Cola і Pepsi змянілі рэцэпт

**Адмовіліся ад фарбавальніка**, што мог выклікаць рак.

Coca-Cola і Pepsi мяняюць рэцэпты напояў, каб пазбегнуць размяшчэння на бутэльках папярэджання аб небяспецы ўзнікнення ракавых захворванняў.

Як сцвярджаюць амерыканскія навукоўцы, у складзе напояў Coca-Cola і Pepsi-Cola прысутнічае фарбавальнік, які змяшчае 4-метылімідазол (4-MI), які ў ходзе даследаванняў выклікаў анкалагічныя захворванні ў паддоследных пацукоў.

Змены ў вырабе напояў ужо ўведзены ў Каліфорніі, а ў хуткім часе і на ўсёй тэрыторыі ЗША. Гэта зроблена нягледзячы на тое, што Упраўленне па кантролі за якасцю харчовых прадуктаў і лекавых прэпаратаў ЗША (Food and Drug Administration) адпрэчыла сцвярджэнне, што гэтыя папулярныя напоі ўтрымліваюць канцэраген. Як заявіла гэтае ведамства, каб кока і пепсі сталі небяспечнымі ў гэтым сэнсе, іх трэба піць цыстэрнамі.

З другога боку, кафеін і цукар у газаваных напоях карысці арганізму ў кожным разе не прыносяць.

**СГ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Вясна ідзе: у выхадныя на поўдні будзе да +15°С. Да канца тыдня тэмпература паветра ў Беларусі будзе на 3—6 градусаў вышэй за кліматычную норму. На фота: руіны палаца ў Асвеі (Верхнядзвінскі раён).



**Першая ракетка свету беларуска Вікторыя Азаранка выйшла ў свет са сваім бойфрэндам Сяргеем Бубкам-малодшым. Не ўсё ж у тэніс гуляць.**






**Прадаецца такая рэч у мінскім ЦУМе. Звярніце ўвагу: шапку зрабілі ў Бабруйску са штучнага футра. Як жартуюць у каментах на nn.by, каб была бел-чырвона-белага колеру, то зрабілі б з натуральнага футра.**



**«Пагалілі ўжо»: Дзмітрый Мядзведзеў змяніў імідж — фотафакт. Прэзідэнцкі тэрмін Мядзведзева канчаецца 7 мая.**

## Анекдоты

* * *

Пытанне ашмянскаму радыё:

– А за колькі можна купіць новую 200-тысячную купюру?

* * *

Фальшываманетчыкі намалявалі на 200-тысячнай купюры Нацыянальную бібліятэку. Ну а што? У магілёўскі музей ніхто не верыў.

* * *

Рабіновіч піша ліст брату ў Ізраіль: «У нас усё стала вельмі дорага. Простая курыца каштуе 100 тысяч рублёў».

Выклікаюць Рабіновіча ў КДБ і кажуць:

— Калі вы будзеце пісаць такія лісты, то мы вас строга пакараем.

Спалоханы Рабіновіч вяртаецца дадому і піша новы ліст брату ў Ізраіль. «У нас тут пры Лукашэнку — райскае жыццё. Сёння пайшоў на рынак, гляджу, прадаецца буйны слон за 75 тысяч рублёў. Навошта, думаю, мне слон. Лепш я дадам яшчэ 25 тысяч і куплю сабе курыцу».

* * *

— Доктар, у мяне кружыцца галава.

— Ну, гэта вам, даражэнькі, да хірурга. Як жа гэта вы засунулі галаву ў падстаўку для глобуса?

* * *

— Мілы, што мне ўзяць з сабой на мора, каб усе, паглядзеўшы на мяне, звар'яцелі?

— Санкі.

* * *

Ашчадныя маладыя вырашылі сэканоміць на фатографе і аператары і запомнілі ўсё вяселле.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Жалуды. Барысаўскі павет.** У гэтую вёску прыбыў нейкі паніч, які служыў недзе аканомам, але яго разлічылі. Вядома, калі дасі рукам свята, дык будзе зубам пост. Так было і з панічам. Але ён быў «бітым сабакам». Заходзіць у хату да селяніна і кажа, што надта спадабалася яго дачка, Кацярына, ды хацеў бы ўзяць яе ў жонкі. Селянін чуў, што аканомавай кабыле надта добра, а дачцэ будзе яшчэ лепш. Паніч жыў у цесця як зяць. Усе яго кормяць каўбасамі, пояць гарэлкай. Прайшлі запусты і настаў пост. Замест каўбас — цыбуля, хлеб і чорны хлеб. Паніч сказаў, што яму трэба дастаць ад губернатара разрашэнне на вяселле. Як пайшоў, дык і цяпер няма. Дзеўка крэпка галосіць.

**«НН». №10. 1912.**

**Станіслаў Шушкевіч** можа ў хуткім часе трапіць у Кнігу рэкордаў Гінэса як былы кіраўнік дзяржавы, што мае найменшую ў свеце пенсію. Цяпер яна складае 3196 рублёў (2 даляры).

**«НН». №10. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.03.2012.
Замова № 1117.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12010